*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 7 кастрычніка 1988 г. № 40 (3450) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ
## аб пленуме Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі

**4 кастрычніка адбыўся XI пленум Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі.**

**Пленум разгледзеў пытанне «Аб практычнай рабоце партыйных арганізацый рэспублікі па рэалізацыі рашэнняў XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, ліпеньскага (1988 г.) Пленума ЦК КПСС». З дакладам выступіў першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Я. Я. Сакалоў.**

**У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел: А. А. Зеляноўскі — першы сакратар Брэсцкага абкома КПБ; Г. І. Ермаловіч — брыгадзір мантажнікаў сувязі спецтрэста «Белсувязьбуд», г. Мінск; А. С. Камай — першы сакратар Гомельскага абкома КПБ; М. Я. Чуманіхіна — генеральны дырэктар Віцебскага вытворчага аб'яднання «Даламіт»; Л. Г. Кляцкоў — першы сакратар Гродзенскага абкома КПБ; Г. У. Півавар — аператар комплексу па вытворчасці ялавічыны саўгаса-камбіната «Мір» Баранавіцкага раёна; А. І. Цішкевіч — старшыня Мінскага аблвыканкома; В. Л. Більдзюкевіч — міністр прамысловасці будаўнічых матэрыялаў БССР; У. П. Кулакоў — старшыня Віцебскага аблвыканкома; У. Р. Галко — першы сакратар Мінскага гаркома КПБ; А. Т. Кічкайла — старшыня Магілёўскага аблвыканкома; В. М. Чачын — рэктар Беларускага політэхнічнага інстытута, акадэмік АН БССР; М. Ф. Лаўрыновіч — генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «БелаўтаМАЗ».**

**Па абмеркаванаму пытанню прынята пастанова.**

**Пленум прыняў пастанову «Аб стварэнні камісій ЦК Кампартыі Беларусі і рэарганізацыі апарату ЦК КПБ у святле рашэнняў XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі».**

**На пленуме заслухана справаздача члена ЦК КПБ, старшыні Дзяржаграпрома БССР Ю. М. Хусаінава «Аб рабоце па развіццю ў рэспубліцы харчовай і перапрацоўчай галін, укараненню безадходных тэхналогій зыходзячы з патрабаванняў XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, ліпеньскага (1988 г.) Пленума ЦК КПСС».**

**У спрэчках па гэтаму пытанню выступілі: В. Я. Яськоў — першы сакратар Кастрычніцкага райкома КПБ г. Мінска; Г. А. Венгерчук — брыгадзір Бярозаўскага мясакансервавага камбіната; Г. В. Карпаў — старшыня Бабруйскага гарвыканкома. Па справаздачы Ю. М. Хусаінава прынята пастанова.**

**Матэрыялы пленума будуць апублікаваны ў друку.**

# Аб практычнай рабоце партыйных арганізацый рэспублікі па рэалізацыі рашэнняў XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, ліпеньскага (1988 г.) Пленума ЦК КПСС

## *Даклад Я. Я. САКАЛОВА*

Таварышы! Чым больш аддаляе нас час ад XIX Усесаюзнай партканферэнцыі, тым глыбей разуменне велізарнай значнасці яе рашэнняў для лёсу краіны, для лёсу нашага народа.

Канферэнцыя яшчэ раз пераканаўча прадэманстравала магутны патэнцыял слаўнай ленінскай партыі — сапраўднай рухаючай сілы перабудовы, яе ініцыятара і прызнанага лідэра, які выражае інтарэсы савецкіх людзей. Яна ў поўнай меры адлюстравала тую новую палітычную атмасферу, што ўсталёўваецца ў грамадстве пасля красавіцкага (1985 г.) Пленума ЦК КПСС.

Галоўны вынік канферэнцыі заключаецца ў тым, што па ўсіх карэнных праблемах, якія былі прадметам агульнапартыйнага, агульнанароднага абмеркавання на аснове Тэзісаў ЦК КПСС, выпрацавана праграмная палітычная пазіцыя.

Ліпеньскі (1988 г.) Пленум ЦК КПСС, вызначыўшы разгорнуты план дзеянняў па выкананню рэзалюцый канферэнцыі, падкрэсліў, што ў гэты пераломны перыяд поспех перабудовы залежыць ад разумення партыйнымі арганізацыямі, працоўнымі калектывамі, усімі кадрамі сваёй адказнасці, ад іх канкрэтных спраў.

Заканамерным крокам на шляху рэалізацыі ўстановак канферэнцыі з'явіліся толькі што прайшоўшыя Пленум ЦК КПСС і нечарговая сесія Вярхоўнага Савета СССР.

Выбранне Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР будзе служыць вышэйшым інтарэсам нашай дзяржавы, дазволіць узмацніць кіруючую ролю Камуністычнай партыі ў грамадстве і поўнаўладдзе Саветаў, павысіць эфектыўнасць функцыяніравання палітычнай сістэмы краіны.

Ідэі канферэнцыі, яе асноватворныя рашэнні маюць непераходзячае значэнне і для Кампартыі Беларусі. Пра што б ні ішла размова, якая б праблема ні ставілася, якое б пытанне ні ўзнімалася — яны хвалююць камуністаў, усіх працоўных Савецкай Беларусі, выклікаюць у іх жывую зацікаўленасць, імкненне штодзённай працай садзейнічаць паскарэнню перабудовы.

Імення з гэтых пазіцый і хацелася б павесці размову на цяперашнім пленуме ЦК КПБ.

### I.

Як вы ведаеце, дэлегацыя Кампартыі Беларусі на XIX Усесаюзнай партканферэнцыі паставіла пытанне аб пераходзе рэспублікі на прынцыпы гаспадарчага разліку і самафінансавання. Савет Міністраў СССР прыняў нашу прапанову.

З аднаго боку, гэта расшырае самастойнасць рэспублікі, яе абласцей, гарадоў і раёнаў у развіцці эканомікі і культуры, з другога — павышае адказнасць кіруючых кадраў, вучоных, спецыялістаў, усіх працаўнікоў за высокаэфектыўнае выкарыстанне навуковага, вытворчага, эканамічнага і духоўнага патэнцыялу. Гэта таксама і шлях ломкі адміністрацыйна-камандных метадаў кіравання, пазбаўлення ад утрыманскіх настрояў і месніцтва.

Тэрытарыяльны гаспадарчы разлік павінен дакладна вызначыць эканамічнае аблічча рэспублікі і кожнага яе рэгіёна. Нашымі прынцыпамі павінны стаць: працаваць з поўнай аддачай, расходы — па даходах, жыць — па сродках.

Зразумела, укараненне рэгіянальнага гаспадарчага разліку — справа няпростая. Некаторыя таварышы не ўсведамляюць таго, што гэта не механічны перанос заводскага або галіновага гаспадарчага разліку на рэспубліканскі, абласны ўзровень.

Тут патрэбен якасна іншы механізм, заснаваны на эканамічных метадах кіравання, спалучэнні розных форм уласнасці. Па-новаму мы павінны не толькі кіраваць вытворчасцю, але і навучыцца, што называецца, гандляваць, задавальняць патрэбнасці насельніцтва, вырашаць шырокі круг сацыяльных і экалагічных праблем.

Рэгіянальны гаспадарчы разлік — гэта і якасна новы стыль работы, новы стыль мыслення, які неабходна асвоіць нашым кадрам. Мы павінны знайсці ў сабе сілы вырвацца з палону дагматычных падыходаў, камандных метадаў кіравання, перайсці на мову эканамічную, камерцыйную ў яе навуковым разуменні.

Некаторы вопыт ажыццяўлення эксперыментаў у розных галінах эканомікі ў нас

(Працяг на стар. 2).

даць праз прызму таго, якое становішча з забеспячэннем насельніцтва прадуктамі харчавання.

За два з палавінай гады ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулай пяцігодкі праз гандлёвую сетку і прадпрыемствы грамадскага харчавання рэалізавана больш малака і малочных прадуктаў на 58 працэнтаў, мяса і мясапрадуктаў — на 51, яец — на 12, агародніны — на 33 працэнты, садавіны — у 2 з лішнім разы.

Пазітыўныя перамены відавочныя. Але ў цэлым забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання прызнаць здавальняючым нельга ні з пункту гледжання колькасці, ні з пункту гледжання разнастайнасці асартыменту. Яно адстае ад усё ўзрастаючых запатрабаванняў нашых людзей.

Першая ступенька, абавязковая перадумова для рэалізацыі харчовай праблемы — выкананне Харчовай праграмы. У мінулым годзе на яе рубяжы, прадугледжаныя на канец пяцігодкі, рэспубліка выйшла па вытворчасці малака і яец, па мясу — выйдзе ў бягучым.

Па абласцях карціна такая. За тры гады на заданні Харчовай праграмы па малаку не выходзіць Віцебская вобласць (98 працэнтаў), па мясу — Віцебская, Гомельская (93 працэнты) і Магілёўская (92).

Сярэднегадавая вытворчасць збожжа павялічылася ў бягучай пяцігодцы на 31 працэнт, жывёлы і птушкі — на 19, малака — на 13, а ў цэлым валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі — на 13,8 працэнта.

Надой ад каровы за два гады і 9 месяцаў узрос на 676 кілаграмаў.

Рэнтабельнасць сельскагаспадарчай вытворчасці склала ў мінулым годзе 33,1 працэнта. За першае паўгоддзе бягучага года калгасы і саўгасы атрымалі 1,2 млрд. рублёў прыбытку — гэта ў 2,3 раза больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года.

Як бачыце, зроблена і робіцца значна менш, чым дазваляюць створаны ў аграрным сектары эканомікі вытворча-навуковы патэнцыял, узровень нашых кадраў. Я маю на ўвазе перш за ўсё кадры калгасаў, саўгасаў, РАПА, НДІ, а таксама партыйных, савецкіх, гаспадарчых органаў. Абсалютная большасць з іх мае ўсё неабходнае для вядзення справы з улікам патрабаванняў жыцця, патрабаванняў перабудовы.

Нямала, аднак, ёсць яшчэ і такіх работнікаў, якія па-ранейшаму праяўляюць безыніцыятыўнасць, вяласць у асваенні новых метадаў гаспадарання, дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу, гэта значыць працуюць, спусціўшы рукавы.

Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, выступаючы ў Краснаярску і гаворачы аб вырашэнні харчовай праблемы, на першы план паставіў задачу кардынальна змяніць эканамічныя адносіны ў вёсцы, паўсюдна адкрыць дарогу гаспадарча-разліковаму падраду, і асабліва арэнднаму.

Усім павінна быць відавочна, што без абуджэння асабістага інтарэсу кожнага работніка немагчыма рэалізаваць перавагі новай эканамічнай рэформы. Ліпеньскі (1988 г.) Пленум ЦК КПСС звярнуў увагу на тое, што іменна арэнда здольна даць гаспадарчаму разліку другое дыханне, выявіць у чалавека талент гаспадара, зацікавіць яго ў максімальна эфектыўным выкарыстанні зямлі, іншых сродкаў вытворчасці.

Некаторым кіраўнікам трэба збавіцца ад памылкі, быццам арэндны падрад з'яўляецца тормазам для асваення інтэнсіўных тэхналогій у сельскай гаспадарцы і ледзь ці не загубіць калгас або саўгас.

Такія думкі — не толькі, на жаль, размовы. Яшчэ нярэдкія факты, калі пачынальнікі арэнднага падраду сутыкаюцца з нядобразычлівасцю, калі ім учыняюцца ўсялякія перашкоды. І не толькі кіраўнікамі, але і тымі, хто імкнецца менш папрацаваць, але пабольш атрымаць, хто адвык ад добрасумленнай працы. Ацэньваць такія факты трэба адназначна.

Калгасы і саўгасы — аснова асноў сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. Іх роля ў станаўленні сацыялізму ў вёсцы неацэнная. Будзе ўзрастаць яна і ў далейшым. Калгасы і саўгасы далёка не вычарпалі сваіх магчымасцей. Размова ідзе толькі аб змяненні іх унутранай структуры, удасканаленні ўнутрыгаспадарчых эканамічных адносін.

Гэтыя адносіны сёння стрымліваюць далейшае нарошчванне аб'ёмаў сельскагаспадарчай прадукцыі, павышэнне эфектыўнасці вытворчасці. Жыццё настойліва патрабуе, і вопыт гэта пацвярджае, што на змену цяперашнім брыгадам у калгасах і аддзяленням у саўгасах павінны прыйсці арэндныя гаспадарча-разліковыя калектывы, здольныя на новай аснове выкарыстоўваць перавагі гаспадарак.

Нашы кадры на аснове ўласнага вопыту і супастаўлення яго з вопытам іншых рэгіёнаў прыйшлі да вываду, што ва ўмовах рэспублікі генеральным напрамкам развіцця сельскай гаспадаркі з'яўляецца спецыялізацыя і канцэнтрацыя сельскагаспадарчай вытворчасці на аснове індустрыяльных тэхналогій. Наконт гэтага мы дакладна дамовіліся на сходзе партыйна-гаспадарчага актыву ў Брэсцкай вобласці, які адбыўся ў мінулым годзе пасля двухдзённага семінара. Гэта ж лінія была пацверджана і пры падвядзенні вынікаў такога ж семінара ў Гродзенскай вобласці ў гэтым годзе.

Павысіць эфектыўнасць створанага і ствараемага патэнцыялу калгасаў і саўгасаў можна толькі праз настойлівае ўдасканаленне эканамічных адносін у вёсцы, праз развіццё разнастайных форм падраду і арэнды.

Пры гэтым вельмі важна паклапаціцца пра чалавека, пра ўмовы яго працы і быту. Інакш ніякія рэсурсы, што накіроўваюцца ў сельскую гаспадарку, ніякія арганізатарскія і палітычныя меры не дадуць належнай аддачы.

Непарыўная ўзаемасувязь гэтых падыходаў адзначалася і на канферэнцыі, і на ліпеньскім (1988 г.) Пленуме ЦК КПСС. Па сутнасці размова ідзе аб трыадзінай задачы, усе складаемыя якой востра актуальныя для забеспячэння эфектыўнасці агракомплексу.

У бягучым годзе на арэндным падрадзе працуюць вытворчыя падраздзяленні амаль у палавіне гаспадарак. Многія партыйныя арганізацыі, арыентуючы на разнастайнасць форм арэнды, не дапускаюць націску на карысць якой-небудзь адной, умела падтрымліваюць і развіваюць ініцыятыву знізу.

Актыўна асвойваецца новая форма арганізацыі і стымулявання працы ў гаспадарках Навагрудскага, Шклоўскага, Докшыцкага, Клецкага, Добрушскага, Іванаўскага і іншых раёнаў. І пахвальным з'яўляецца імкненне не разбураць усё «старое» без аглядкі, а дзейнічаць узважана, захаваць усё каштоўнае, перспектыўнае, што апраўдала сябе.

Аналіз пацвярджае вывад аб тым, што для большасці гаспадарак у земляробстве найбольш прымальнай формай з'яўляюцца падрадныя калектывы, калі механізатары бяруць у арэнду на доўгі тэрмін зямлі цэлага севазвароту і набор тэхнікі. Іменна калектывы.

Па-першае, ва ўмовах севазвароту пры вялікім наборы культур аднаму-двум механізатарам цяжка добра авалодаць навыкамі вырошчвання кожнай з іх з улікам патрабаванняў сучасных інтэнсіўных тэхналогій.

Па-другое, у адзіночку браць у арэнду поўны набор сучаснай тэхнікі для вырошчвання некалькіх сельскагаспадарчых культур на невялікіх плошчах эканамічна нявыгадна.

Па-трэцяе, перадаваць механізатару на вырошчванне толькі асобныя культуры немэтазгодна, таму што гэта запатрабуе штогадовай змены арандуемых зямельных участкаў. У гэтым выпадку будзе аслаблена цікавасць да павышэння ўрадлівасці глебы.

І нарэшце, у гаспадарках на працягу рада гадоў склаліся стабільныя калектывы механізатараў, якія добра ведаюць здольнасці адзін аднаго.

У жывёлагадоўлі арандатарамі могуць выступаць калектывы ферм, комплексаў, а таксама асобных цэхаў.

Добрая маральна - псіхалагічная атмасфера, а значыць, і высокая рэзультатыўнасць у рабоце дасягаюцца ў тых гаспадарках, дзе на арэндны падрад пераходзяць усе падраздзяленні. Правільна, на наш погляд, зрабілі ў саўгасе «Гарадзец» Шклоўскага раёна. Тут у земляробстве створаны тры арэндныя калектывы. У іх увайшло ў сярэднім па 17 механізатараў. Кожны калектыў узяў у арэнду землі аднаго севазвароту — ад 1.100 да 1.600 гектараў.

У жывёлагадоўлі на базе 6 ферм утворана 14 арэндных калектываў. Амаль у тры разы скарацілі яны колькасць работнікаў, непасрэдна не занятых на вытворчасці. Перайшлі таксама на арэндны падрад аўтапарк, рамонтная майстэрня.

Усе арэндныя калектывы дэмакратычным шляхам выбралі кіраўнікоў, аплачваючы іх працу з гаспадарча - разліковага даходу. Узаемаадносіны з дырэкцыяй саўгаса будуюцца на аснове разліковых і планава-дысконтных цэн, прадугледжаных у дагаворы на арэнду.

За паўгоддзе саўгас атрымаў 270 тыс. рублёў прыбытку супраць 87 тыс. рублёў страты за адпаведны перыяд мінулага года. Надой малака ад каровы ўзрос за 9 месяцаў на 370 кілаграмаў, а вытворчасць яго павялічылася на 10,5 працэнта. Рэалізацыя жывёлы павысілася ў 2,7 раза.

Прынцыповым з'яўляецца пытанне ўкаранення арэнднага падраду на жывёлагадоўчых комплексах. Тут ён аб'ядноўвае перавагі буйнога высокамеханізаванага прадпрыемства з новай формай арганізацыі і стымулявання працы. На такіх умовах, напрыклад, працуе комплекс «Прамень» па адкорму 24 тыс. свіней у год у калгасе «Дубна» Мастоўскага раёна.

У мінулым годзе пры росце аплаты на 10 працэнтаў прадукцыйнасць працы павысілася тут на 16 працэнтаў. У бягучым годзе сярэднясутачнае прыбаўленне ў вазе свіней на адкорме перавысіла 550 грамаў. Сабекошт цэнтнера свініны склаў 134 рублі. На цэнтнер прыбаўлення ў вазе расходуецца 5,2 цэнтнера кармавых адзінак.

Адначасова трэба ўсямерна развіваць сямейны і індывідуальны арэндны падрады, забяспечваць іх эфектыўнае спалучэнне з калектыўным.

У саўгасе «Ціхінічы» Рагачоўскага раёна ў мінулым годзе сямейныя калектывы ўзяліся вырошчваць цыбулю на плошчы 80 гектараў. Яны сабралі 990 тон прадукцыі, ад рэалізацыі якой атрымана больш чым 200 тыс. рублёў прыбытку. Год назад, калі падраду не было, з такой жа плошчы саўгас атрымаў толькі 155 тон цыбулі і меў 14 тыс. рублёў страты.

Пераводзячы падраздзяленні на арэндныя адносіны, некаторыя кіраўнікі і спецыялісты не заўсёды глыбока прадумваюць тэрміны арэнды. Сёлета большасць дагавораў заключана на год. З гэтым можна згадзіцца толькі на першым часе, пакуль у кадраў няма практычнага вопыту. У будучым жа трэба ісці на тэрмін у 15 і больш гадоў.

Памыляюцца ў некаторых гаспадарках, спадзеючыся, што для пераходу да арэндных адносін дастаткова распрацаваць разліковыя і дысконтныя цэны, аформіць іх дагаворам, аб'явіць калектыву брыгады або фермы. Галоўнае ў тым, каб абудзіць у людзей асабістую цікавасць, жаданне ўзяць на сябе ўсю паўнату адказнасці за высокаэфектыўнае выкарыстанне зямлі, пабудоў, жывёлы, тэхнікі.

Цяпер дзе-нідзе чуваць заклікі да стварэння хутарскіх гаспадарак арандатараў. У нашых умовах ісці па такім шляху немэтазгодна, асабліва з пункту погляду вырашэння сацыяльных праблем. У калгасах і саўгасах рэспублікі створана нядрэнная вытворчая база з даволі высокім узроўнем механізацыі тэхналагічных працэсаў. Растуць новыя пасёлкі і вёскі, прывычнымі становяцца для вяскоўцаў многія гарадскія зручнасці.

Галоўная наша задача ў тым, каб і ў далейшым максімальна аблягчаць працу селяніна, паляпшаць умовы работы, медыцынскае, культурнае, камунальна - бытавое абслугоўванне. І цяпер, і ў будучым сучасныя добраўпарадкаваныя дамы, бальніцы, школы, дзіцячыя сады і яслі, клубы, якія забяспечваюць гарманічнае развіццё чалавека, мы маем і зможам мець толькі ў вёсках і сельскіх пасёлках, а не на хутарах.

У ходзе ўкаранення арэндных адносін партыйным камітэтам і арганізацыям важна перабудаваць работу з кіраўнікамі і спецыялістамі гаспадарак.

Намаганні кіруючых кадраў гаспадарак трэба нацэльваць на далейшую адпрацоўку эканамічных узаемаадносін, аказанне арэндным калектывам кваліфікаванай дапамогі ва ўдасканаленні тэхналогіі, укараненні навуковых дасягненняў, на вырашэнне пытанняў матэрыяльна - тэхнічнага забеспячэння, перспектыў развіцця калгасаў і саўгасаў.

Неабходна ўсямерна падтрымліваць ініцыятыву арэндных калектываў, якія наймаюць сабе спецыялістаў, аплачваюць іх працу са свайго гаспадарча-разліковага даходу. Адначасова нельга дапускаць недаацэнкі іх ролі. У апошні час сталі моднымі разважанні аб тым, што спецыялістаў у нас залішне, што многія з іх ледзь ці не дарма ядуць хлеб. Дзе-нідзе дагаварыліся да таго, што ў новых умовах гаспадарання можна наогул абысціся без іх.

Гэта глыбока памылковы пункт погляду. Ці можна без спецыялістаў паспяхова ўкараняць інтэнсіўныя тэхналогіі, умела праводзіць канцэнтрацыю і спецыялізацыю вытворчасці? Ці можна без спецыялістаў шырока выкарыстоўваць навуковыя дасягненні, весці глыбокі эканамічны аналіз развіцця калгаса, саўгаса? Адказы адназначныя: не. Без спецыяліста гаспадарка асуджана на адставанне.

Партыйным камітэтам і арганізацыям, кіраўнікам Дзяржаграпрома БССР і аблаграпромаў трэба будзе многае зрабіць, каб арэндныя формы вядзення сельскай гаспадаркі атрымалі паўсюднае прымяненне. Вырашэнне гэтай задачы не проста пажаданне, а патрабаванне, дыктуемае самой логікай нашага развіцця на цяперашнім этапе перабудовы.

Каб яна хутчэй набірала сілу, множыла пазітыўныя перамены ў вёсцы, пад сельскагаспадарчую вытворчасць неабходна падвесці трывалую навуковую базу. Пакуль што ў нас гэта не зроблена, аб чым, у прыватнасці, сведчаць і вынікі бягучага года. Варта было ў гэтым годзе адбыцца адхіленням ва ўмовах надвор'я ад аптымальных, як атрыман недабор і збожжа, і бульбы. Але ж мы маглі б не дапусціць гэтага, каб паўсюдна і своечасова, з дапамогай навукі процідзейнічалі неспрыяльным кліматычным фактарам.

Вось характэрная дэталь. На складах Сельгасхіміі доўгі час ляжаць прыборы для тысячы хімічных экспрэс-лабараторый, якія дазваляюць своечасова праводзіць дыягностыку раслін і аператыўна ўносіць карэктывы ў тэхналогію іх вырошчвання. Але ні т. Старавойтаў, ні т. Нікітчанка, ні т. Шувалаў не прынялі мер, каб такое каштоўнае і неабходнае ва ўмовах гэтага года абсталяванне хутчэй дайшло да кожнай гаспадаркі і працавала на ўраджай. Не выкарыстаў, як кажуць, уладу і т. Хусаінаў.

Або такі прыклад. У пачатку года калгас імя Дзяржынскага Бабруйскага раёна набыў імпартную сеялку, прымяненне якой дазваляе атрымаць прыбаўку па 5—8 цэнтнераў збожжа на кожным гектары. У вырабе сеялка простая, аднак тт. Сухарукаў і Клаўсуць так нічога і не зрабілі, каб арганізаваць яе серыйную вытворчасць.

Як вы памятаеце, на сходзе актыву ў Брэсце ў якасці прыярытэтных былі вызначаны задачы па паглыбленню канцэнтрацыі і спецыялізацыі ў галіне, укараненню інтэнсіўных тэхналогій, стварэнню селекцыйна-гібрыдных цэнтраў у свінагадоўлі і цэнтраў трансплантацыі эмбрыёнаў у жывёлагадоўлі.

Што зроблена за мінулы перыяд? Ва ўсіх раёнах, абласцях распрацаваны схемы спецыялізацыі і канцэнтрацыі. Аднак будаўніцтва многіх аб'ектаў вядзецца дрэнна. У цэлым па рэспубліцы з 62 будуемых жывёлагадоўчых комплексаў план васьмі месяцаў не выканан напалавіну. Асабліва вялікае адставанне дапушчана ў Магілёўскай і Гомельскай абласцях.

Калі селекцыйна - гібрыдныя цэнтры ў Брэсцкай, Віцебскай і Мінскай абласцях будуюцца больш або менш нядрэнна, то гэтага не скажаш аб Гомельскай і Магілёўскай абласцях. Даўгабудам стала ўзвядзенне селекцыйна - гібрыднага цэнтра на Гродзеншчыне.

Зацягваецца стварэнне сеткі пунктаў трансплантацыі эмбрыёнаў. Тт. Дзергачоў і Нікітчанка па-ранейшаму працягваюць дыскуціраваць аб іх эканамічнай эфектыўнасці. І не спяшаюцца пераходзіць ад слоў да справы.

А як сёлета нарыхтоўваюцца кармы? Дрэнна выкарыстоўваўся манеўр тэхналогіямі, не ў поўнай меры былі ўведзены ў дзеянне матэрыяльна - тэхнічныя магчымасці. У выніку многія гаспадаркі расцягнулі тэрміны ўборкі траў, што адмоўна адбілася на якасці сена і сенажу. І адбылося гэта таму, што па-даўнейшаму, без уліку рэальных умоў, безыніцыятыўна дзейнічалі многія нашы кадры.

Калі на нарадзе ў ЦК КПБ ішла размова аб асаблівасцях сёлетняга сельскагаспадарчага года, сакратар Мінскага абкома партыі т. Дзягілеў заявіў: «Кармоў у нас будзе менш, таму што недабралі збожжа». А пытанне абмяркоўвалася ў пачатку жніўня, гэта значыць у перыяд, калі была рэальная магчымасць кампенсаваць недабор бялку за кошт паўторных пасеваў і вырошчвання паржышчавых культур. Умовы ж надвор'я спрыялі гэтаму — дастаткова было і вільгаці, і цяпла.

А колькі траў і сёння не скошана, не ўбрана з несельгасугоддзяў, з абочын дарог! Размова ідзе пра тое, што сітуацыю трэба аналізаваць, рабіць з яе вывады для практычнай работы. Тым больш сакратарам абкомаў партыі.

Па-ранейшаму востра стаіць пытанне аб павышэнні эфектыўнасці выкарыстання збожжа на фуражныя мэты. На семінары ў Гродзенскай вобласці былі прадэманстраваны мікранізатары, выраблены мясцовымі ўмельцамі. У рэспубліцы працуе рад невялікіх камбікармавых заводаў тыпу «Харкаўчанка». Закуплен узор прамысловага мікранізатара за рубяжом. Словам, ёсць з чым параўнаць і ёсць з чаго адабраць. А адабраўшы — наладзіць серыйны выпуск. У будучым годзе такім абсталяваннем неабходна аснасціць не менш палавіны калгасаў і саўгасаў.

Ні адзін цэнтнер збожжа не павінен быць выкарыстаны ў непадпрацаваным выглядзе.

Вядома, у тым, што новаўвядзенні з цяжкасцю прабіваюцца на палі і фермы, немалая віна нашых навуковых устаноў.

Многія гады Беларускі НДІ земляробства (т. Самсонаў) абяцае вытворчасці эфектыўныя прыёмы агратэхнікі з улікам прыродна - кліматычных асаблівасцей розных зон рэспублікі, і ў прыватнасці такіх,

(Працяг на стар. 4).

# Даклад Я. Я. САКАЛОВА

(Працяг. Пачатак на стар. 1—3).

як Віцебская вобласць, беларускае Палессе. Аднак рэкамендацый няма да гэтага часу.

З давён-даўна вучоныя Цэнтральнага НДІ механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі (т. Нагорскі) маюць намер стварыць сістэмы машын, якія дазваляюць поўнасцю механізаваць вырошчванне льну, цукровых буракоў, агародніных культур, а таксама працаёмкія працэсы ў жывёлагадоўлі. Але воз, як кажуць, і сёння там.

Беларускі НДІ эканамічных праблем АПК (т. Красtоўскі) не выдаў нічога істотнага па пытаннях укаранення поўнага гаспадарчага разліку, удасканалення міжгаліновых адносін у аграпрамысловым комплексе.

Відаць, ужо настаў час Дзяржаграпрому патрабаваць, а не займацца ўгаворамі і агітацыяй. Пара зразумець, што перабудове патрэбны не проста агітатары, а арганізатары справы. У калектывах навуковых устаноў павінна быць створана абстаноўка сапраўды напружанай і творчай работы. Неабходна адмовіцца ад думкі, што гэта вольная сфера прыкладання працы.

Гэтымі днямі ЦК КПБ атрымаў з АН БССР запіску дырэктара Інстытута цепла- і масаабмену т. Мартыненкі, у якой ставіцца пытанне аб неабходнасці паскарэння электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. У запісцы прыводзяцца такія даныя: на сельскагаспадарчую вытворчасць прыпадае толькі 8,3 працэнта электраэнергіі, якая выкарыстоўваецца ў рэспубліцы. Па электраўзброенасці працы ў сельскай гаспадарцы Беларусь адстае ад сярэднесаюзных паказчыкаў, і ў 2—3 разы — у параўнанні з Літвой, Латвіяй, Эстоніяй.

Напэўна, няма неабходнасці пераконваць каго-небудзь у тым, што электрыфікацыя вёскі — гэта не толькі пытанне навукова - тэхнічнага прагрэсу, укаранення навейшых тэхналогій. Гэта і зусім іншы характар працы, высокая культура вытворчасці. Гэта і змяненне быту сельскіх працаўнікоў, вырашэнне экалагічных праблем.

У чым жа прычыны такой слабай электраўзброенасці працы ў галіне?

Адна з іх заключаецца ў тым, што Дзяржаграпром БССР пусціў справу на самацёк. Да 1986 года ў рэспубліцы дзейнічала аб'яднанне «Белсельгасэнерга», якое займалася выкарыстаннем электраэнергіі ў тэхналагічных працэсах сельскагаспадарчай вытворчасці і быце сельскага насельніцтва. Яно праводзіла тэхабслугоўванне калгасных і саўгасных электраўстановак, рамантавала іх, рыхтавала кадры сельскіх электрыкаў. Пры стварэнні Дзяржаграпрома гэта служба была ліквідавана.

Прынята спецыяльнае рашэнне, якое абавязвала кіраўнікоў высокага рангу, у тым ліку і членаў Бюро ЦК КПБ, стварыць у рэспубліцы вытворчае гаспадарча-разліковае падраздзяленне з адпаведнымі філіяламі на месцах, якое б у комплексе забяспечвала адзіную тэхнічную палітыку, перспектыўнае планаванне, паскарэнне навукова - тэхнічнага прагрэсу ў галіне энергетыкі і электрыфікацыі вёскі.

Аднак т. Хусаінаў — член Бюро ЦК КПБ, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня Дзяржаграпрома — пра гэта забыў і такой службы да апошняга часу няма. Адсюль і вынікі, аб якіх гаварылася вышэй.

Таварышы! Аб выкарыстанні такога рэзерву, як скарачэнне страт пры захоўванні і перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны, дапожыць пленуму т. Хусаінаў. Я ж спынюся толькі на некаторых прынцыповых момантах.

Працягваюць павялічвацца дыспрапорцыі паміж вытворчасцю сельгаспрадукцыі і магутнасцямі па яе перапрацоўцы. Калі закупкі жывёлы і птушкі за 10 гадоў выраслі на 43 працэнты, то магутнасці па перапрацоўцы мяса — на 13. На жаль, гэта тэндэнцыя пакуль што не слабее, аб чым сведчаць такія факты.

Дзяржаграпром і Мінскі аблвыканком доўгі час падбіралі пляцоўку для будаўніцтва Маладзечанскага мясакамбіната, у выніку яго ўвод адкладзен на 2 гады. Па віне Віцебскага аблвыканкома на год перанесена здача магутнасцей на Глыбоцкім мясакамбінаце. З вялікімі адхіленнямі ад устаноўленых тэрмінаў будуюцца і рэканструююцца Барысаўскі, Пінскі і Лідскі мясакамбінаты, Стаўбцоўскі, Светлагорскі, Барысаўскі, Мазырскі, Мінскі № 3 малочныя заводы.

Дзяржаграпром своечасова не забяспечвае будоўлі дакументацыяй, а будаўнічыя падраздзяленні штогод не прымаюць да выканання прапануемыя аб'ёмы работ. І робіцца гэта з маўклівай згоды аблвыканкомаў. Складваецца ўражанне, што апошняе слова ў развіцці перапрацоўчай прамысловасці належыць не Савету Міністраў, не Дзяржаграпрому БССР, не аблвыканкомам, а будаўнічым ведамствам у асобе тт. Брыля і Чуры.

Дрэнна выкарыстоўваецца для тэхнічнага пераўзбраення перапрацоўчых галін АПК наяўны ў нас прамысловы патэнцыял. Цяпер Савет Міністраў БССР размяшчае на заводах рэспублікі заказ на выраб неабходных для гэтых галін машын і механізмаў. Але робіцца гэта марудна. Так, заказ размешчан толькі на 11 з 67 назваў абсталявання для мяса-малочнай галіны.

Савет Міністраў, Дзяржаграпром БССР і многія мясцовыя савецкія органы па-ранейшаму недаацэньваюць вастрыню праблемы стварэння базы захоўвання і перапрацоўкі плодаагароднінная прадукцыі і бульбы.

У нарошчванне вытворчасці прадуктаў харчавання большым павінен быць уклад прамысловых прадпрыемстваў. Правільна робяць тыя працоўныя калектывы, якія ідуць па шляху кааперацыі матэрыяльна - фінансавых і працоўных рэсурсаў з калгасамі і саўгасамі. Гэта дазволіць гаспадаркам не толькі паспяхова выканаць планы вытворчасці і закупак сельскагаспадарчай прадукцыі, але і дадаткова пастаўляць прадукты харчавання аб'яднанням і арганізацыям у лік іх долевага ўдзелу.

*Яшчэ раз хацеў бы спыніцца* на некаторых пытаннях удасканалення кіравання аграпрамысловым комплексам. Пераход да новых эканамічных адносін у вёсцы патрабуе ўзмацнення ўвагі перш за ўсё да раённага ўзроўню.

Сёй-той робіць заявы, што РАПА, маўляў, зжылі сябе. Гэта ў корані няправільная думка. Больш дакладна сказаць так: цяпер яны перажываюць пераходны перыяд — перыяд пошуку новых форм і метадаў кіравання, якія дазваляюць павысіць эфектыўнасць сельскагаспадарчай вытворчасці.

У далейшым РАПА павінны перарасці ў раённыя навуковаарганізацыйныя цэнтры, якія будуць прапаноўваць гаспадаркам новыя рэсурсазберагаючыя тэхналогіі, сістэмы інтэнсіўнага вядзення земляробства і жывёлагадоўлі, павышэння ўрадлівасці глеб і аказваць дапамогу ў іх укараненні.

Формай кааперавання ўнутры галін могуць стаць навукова - вытворчыя сістэмы. Цяпер іх у рэспубліцы 33 — па вытворчасці ялавічыны, свініны, агародніны, бульбы, кукурузы, збожжа, птушкі, траў і інш. На наш погляд, навукова - вытворчыя сістэмы з цягам часу павінны займацца не толькі вытворчасцю, але і перапрацоўкай, збытам прадукцыі і стаць галіновымі кааператывамі ў маштабах вобласці.

Ва ўсіх гэтых справах патрабуецца больш творчы падыход Дзяржаграпрома БССР. Яго кіраўнікі і спецыялісты занадта захапіліся чыста знешнім, фармальным бокам. Разнастайных аграфірм, аграпрамысловых камбінатаў у рэспубліцы ўжо нямала, але іх структурна - эканамічныя сувязі не адпрацаваны. У выніку няма ніводнага аб'яднання, якое магло б стаць узорам для пераймання.

Ужо другі год як створан Брэсцкі аграпрамысловы камбінат. Але да гэтага часу не адпрацаваны аптымальныя варыянты эканамічных узаемаадносін з партнёрамі, не пастаўлена мэтавая задача на перспектыву па агульнагаспадарчай дзейнасці. Не праявілі тут сябе і кіраўнікі камбіната, Брэсцкага аблвыканкома.

## III.

Таварышы! У маі гэтага года Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, Савет Міністраў БССР, Белсаўпроф адобрылі пасля шырокага ўсенароднага абмеркавання ў працоўных калектывах, друку, па радыё і тэлебачанню комплексную мэтавую праграму паляпшэння жыллёвых умоў насельніцтва рэспублікі на дванаццатую пяцігодку і на перыяд да 2000 года.

Практычна ва ўсіх працоўных калектывах прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, у сельскіх і пасялковых Саветах, у кожным раёне, горадзе і вобласці распрацаваны свае праграмы будаўніцтва жылля.

Да канца стагоддзя неабходна здаць амаль 1.700 тыс. кватэр, да канца бягучай пяцігодкі 331 тысячу, больш чым па 600 тысяч — у трынаццатай і чатырнаццатай пяцігодках.

Работа чакаецца напружаная. Выканаць намечанае мы зможам толькі агульнымі намаганнямі, наваліўшыся, як кажуць, на праблему ўсёй грамадой.

Што ж мы маем на сённяшні дзень? Штогадовы ўвод жылля перавысіў сярэднегадавы ўзровень папярэдняй пяцігодкі на 19 працэнтаў. Дадаткова да задання здадзена за два гады амаль мільён квадратных метраў агульнай жылой плошчы.

Пазітыўныя зрухі адбыліся ў Брэсцкай і Віцебскай абласцях. За мінулы перыяд пяцігодкі дадаткова да плана пабудавана на Брэстчыне каля дзвюх тысяч кватэр, на Віцебшчыне — амаль тысяча.

У цэлым жа па рэспубліцы ў гэтым годзе дапушчан рэзкі спад у рэалізацыі праграмы будаўніцтва аб'ектаў сацыяльна - культурнага прызначэння. Упершыню за апошні час не выканан план паўгоддзя па ўводу жылля, школ, дзіцячых дашкольных устаноў, бальніц і паліклінік, прафтэхвучылішчаў, клубаў і дамоў культуры.

Абмеркаванне гэтага пытання ў Бюро ЦК Кампартыі Беларусі паказала, што кіраўнікі асобных міністэрстваў і ведамстваў, Саветаў народных дэпутатаў па-ранейшаму недаацэньваюць значнасць апераджальнага вырашэння сацыяльных праблем.

Партыйны кантроль за выкананнем планаў сацыяльна-культурнага і жыллёвага будаўніцтва недастатковы. Асабліва ён прыніжан у Мінску. Абстаноўка тут склалася, прама скажам, крытычная. У першым паўгоддзі правалены заданні практычна па ўсіх сацыяльных аб'ектах. Не ўведзена амаль 2.700 кватэр.

У чым прычыны правалу? Калі на Бюро ЦК КПБ гэта пытанне задалі першаму намесніку старшыні гарвыканкома т. Якімчуку, ён зусім сур'ёзна адказаў, што здачу жылля тармозіць дзяржпрыёмка. Аказваецца, т. Якімчук да ўвядзення дзяржпрыёмкі не ведаў, што жыллё трэба здаваць поўнасцю закончаным і гатовым да засялення.

Прычыны правалу ў іншым — ва ўзроўні кіраўніцтва галіной. За 11 гадоў, на працягу якіх т. Якімчук узначальвае гэты ўчастак, ён не здолеў забяспечыць стварэнне неабходнай вытворчай, кадравай і сацыяльнай базы капітальнага будаўніцтва.

Магутнасці прадпрыемстваў будіндустрыі Галоўмінскбуда выкарыстоўваюцца на 75—85 працэнтаў, а здадзены ў 1986 годзе ў эксплуатацыю завод па выпуску 100 тыс. кубічных метраў зборных жалезабетонных вырабаў быў загружаны ў мінулым годзе на 15 працэнтаў, у бягучым — на трэць.

Пастаянна не хапае кадраў. Кожны трэці будаўнік стаіць у чарзе на атрыманне жылля. Многія з іх чакаюць кватэр па 15 і больш гадоў.

Будзе, аднак, няправільным адносіць усе гэтыя недахопы на рахунак аднаго т. Якімчука. Віну павінны падзяліць гарком і гарвыканком, Дзяржплан і Савет Міністраў БССР, Мінскі абком, тыя кіраўнікі, якія ўзначальвалі іх на працягу апошніх 11 гадоў. Тым больш, што амаль усе яны цяпер займаюць вельмі салідныя кіруючыя пасады рэспубліканскага маштабу.

Абвастрэнне жыллёвага пытання ў многім абумоўлена тым, што на працягу доўгага часу скарачаўся ў рэспубліцы, і асабліва ў сельскай мясцовасці, аб'ём індывідуальнага будаўніцтва.

Калі ў адзінаццатай пяцігодцы ён склаў менш 10 працэнтаў, то ў бягучай яго неабходна давесці да 15 працэнтаў, а ў далейшым павялічыць амаль у два разы. У 2—3 разы павінна ўзрасці і доля жыллёва-будаўнічай кааперацыі.

*Такія нашы задачы. А вось як* мы іх рэалізуем. За паўгоддзе ні адна вобласць не выканала планы будаўніцтва дамоў і кватэр за кошт сродкаў насельніцтва.

У многіх месцах да развіцця індывідуальнага жылля па-ранейшаму падыходзяць з фармальна-бюракратычных пазіцый.

Так, у Круглянскім раёне (старшыня райвыканкома т. Царыкаў) у 1986 годзе ўведзена толькі 9 індывідуальных дамоў, у мінулым—12.

Выканком Шклоўскага раённага Савета народных дэпутатаў (старшыня т. Папкоў) яшчэ ў кастрычніку 1986 года разгледзеў праграму жыллёвага будаўніцтва, выявіў жадаючых узвесці індывідуальныя і кааператыўныя дамы. На гэтым усё і закончылася. З-за пасіўнай пазіцыі райвыканкома ў бягучым годзе з 26 заяў на адвядзенне зямельных участкаў пад індывідуальную забудову задаволена толькі 7. У той жа час у чарзе на дзяржаўныя кватэры стаіць больш чым 800 сем'яў.

Трэба таксама расшырыць практыку продажу на льготных умовах калгасамі, саўгасамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі сваім работнікам дамоў, узведзеных за кошт дзяржаўных капітальных укладанняў і сродкаў прадпрыемстваў і гаспадарак.

Эфектыўны шлях вырашэння жыллёвай праблемы знойдзен у саўгасе «Ваўкавыскі» Гродзенскай вобласці. Два гады назад тут створан маладзёжны жыллёвы кааператыў. Ім пабудавана ўжо 14 індывідуальных жылых дамоў прысядзібнага тыпу. Узводзіцца яшчэ 10 дамоў. Палавіну ўсіх затрат узяў на сябе саўгас, астатнія будуць пагашацца жыльцамі на працягу 50 гадоў.

Цяпер гэты вопыт прымяняецца толькі ў 14 гаспадарках рэспублікі. У гэтай справе павінны актыўней праявіць сябе Белсаўпроф, ЦК, абкомы, райкомы камсамола.

Тым больш, што пастаўленая XXX з'ездам Кампартыі Беларусі задача — у дванаццатай пяцігодцы ў два разы павялічыць аб'ём жыллёвага будаўніцтва ў вёсцы — вырашаецца дрэнна. Заданне двух гадоў пяцігодкі не выканалі Магілёўская і Гродзенская вобласці, а першага паўгоддзя бягучага года — усе вобласці, акрамя Брэсцкай.

XIX канферэнцыя КПСС рашуча выказалася за павелічэнне сродкаў на сацыяльнае развіццё вёскі. І, акрамя ўзвядзення жылля, а таксама школ, бальніц, аб'ектаў камунальнага і бытавога абслугоўвання, гандлю, асаблівай увагі патрабуюць дарожнае будаўніцтва, добраўпарадкаванне сельскіх населеных пунктаў з колькасцю дамоў 20 і больш. Іх тэмпы пакуль што нельга прызнаць здавальняючымі. Вось як гэта выглядае па абласцях (колькасць населеных пунктаў).

| | Заданне на 1988 г. | Выканана за 8 мес. г. г. | Працэнт выканання |
|---|---|---|---|
| Брэсцкая | 359 | 126 | 35 |
| Віцебская | 524 | 275 | 52 |
| Гомельская | 445 | 92 | 21 |
| Гродзенская | 306 | 136 | 44 |
| Мінская | 529 | 164 | 31 |
| Магілёўская | 374 | 104 | 28 |

Як бачыце, лепш за іншых працуюць кадры Віцебскай і Гродзенскай абласцей. А вось у Магілёўскай і Гомельскай абласцях адносіны да гэтай справы яўна не дзяржаўныя. Або работнікі гэтых абласцей недаацэньваюць значнасці праблемы, або лічаць, што яе вырашэнне не іх прамы абавязак. Абкомам партыі трэба разабрацца з такімі кадрамі і, незалежна ад таго, хто яны — сакратары райкомаў або старшыні райвыканкомаў, на маючых адбыцца партыйных канферэнцыях зрабіць адпаведныя вывады.

Адначасова трэба разабрацца і з тымі супрацоўнікамі апарату абкомаў КПБ і аблвыканкомаў, якія курыруюць гэты ўчастак работы.

Ва ўсіх, хто сёння мае дачыненне да будаўніцтва, пытаннем нумар адзін з'яўляюцца будматэрыялы. З кожным месяцам патрэбнасць у іх расце, прытым значна хутчэй, чым іх вытворчасць.

На VII пленуме ЦК Кампартыі Беларусі членам ЦК КПБ міністрам тт. Більдзюкевічу і Касцікаву было даручана мабілізаваць на павелічэнне выпуску будматэрыялаў увесь наяўны ў гэтых галінах патэнцыял і вырашыць праблему ў самыя сціслыя тэрміны. Як жа яны аднесліся да даручэння пленума ЦК КПБ?

Толькі 8 з 18 прадпрыемстваў Мінбудматэрыялаў, якія выпускаюць цэглу, працуюць з поўнай загрузкай. За мінулы перыяд пяцігодкі з-за недавыкарыстання вытворчых магутнасцей недаатрымана каля 250 млн. штук цэглы, 120 тыс. кубічных метраў керамзіту.

Марудлівасць праяўляе міністэрства і ў рэканструкцыі керамзітавай вытворчасці. У бягучым годзе, напрыклад, у сістэме Белсельбуда мадэрнізавана 5 вярчальных пячэй для вырабу керамзіту, на трэць павышана іх прадукцыйнасць. А ў Мінбудматэрыялаў за гэты час рэканструявана толькі адна печ.

Так камуніст Більдзюкевіч выконвае партыйныя рашэнні. Узначаленае ім міністэрства пакуль што не стала пастаўшчыком большасці будаўнічых матэрыялаў. У рэспубліку штогод завозіцца больш чым 60 працэнтаў спажываемых цэменту і лінолеуму.

Да гэтага часу не вырашана пытанне арганізацыі выпуску ваннаў, якія, дарэчы, дзесяць гадоў назад выраблялiся ў сістэме *Мінмясцпрома* БССР у аб'ёме 100 тыс. штук у год. Гэта яўная недапрацоўка тт. Еўтуха, Кебіча.

А вось рэакцыя на крытыку т. Косцікава. Узначаленае ім міністэрства не выканала план двух гадоў па вытворчасці цэглы і нават знізіла аб'ём яе выпуску. Цагельныя заводы мясцовай прамысловасці ў мінулым годзе былі загружаны на ўзроўні 67 працэнтаў, у тым ліку ў Брэсцкай і Магілёўскай абласцях—на 58 працэнтаў.

Яны дрэнна забяспечваюцца абсталяваннем, землярыйнай тэхнікай, машынамі. На многіх з іх доўгі час не вырашаюцца пытанні тэхнічнага пераўзбраення і рэканструкцыі, жыллёвая праблема. Для правядзення рамонтна-аднаўленчых работ у сярэднім на адно прадпрыемства штогод выдзяляюцца толькі 10—12 тыс. рублёў.

Не адчуваюць увагі іх калектывы і з боку мясцовых савецкіх органаў. Брэсцкі, Віцебскі, Мінскі і Магілёўскі аблвыканкомы нярэдка скардзяцца на недахват той жа цэглы і ў той жа час мірацца з тым, што размешчаныя на іх тэрыторыі цагельныя заводы сістэматычна не выконваюць планы.

На адзін са шляхоў паляпшэння работы гэтых прадпрыемстваў указвае вопыт завода, размешчанага ў Вілейскім раёне. Доўгі час прадпрыемства было стратным, не выконвала план. У мінулым годзе міністэрства вырашыла закрыць яго. Але завод узяў у арэнду кааператыў. За кароткі час нямала зроблена па паляпшэнню арганізацыі працы. І вось вынік: выпуск цэглы ўзрос на трэць.

А як разумець кіраўнікоў будаўнічых міністэрстваў і ведамстваў, якія з году ў год тлумачаць зрывы і правалы слабасцю ўласнай будаўнічай базы і ў той жа час мала што робяць для яе ўмацавання і развіцця?

За два гады на гэтых аб'ектах недаасвоена 18 млн. рублёў. Няма паляпшэння і ў бягучым годзе. План васьмі месяцаў выканан на 82 працэнты. Не забяспечылі праграму будаўніцтва аб'ектаў прамысловасці будматэрыялаў і будіндустрыі Мінбуд, Мінбудматэрыялаў, Белсельбуд, Галоўпалессеводбуд, усе вобласці.

З вялікім адставаннем узводзіцца рад магутнасцей па выпуску сценавых, нярудных і цеплаізаляцыйных матэрыялаў.

Як вам вядома, мы прынялі рашэнне аб будаўніцтве двух цэментавых заводаў у гг. Касцюковічы і Ваўкавыску з уводам у дзеянне першых чэргаў у 1989 годзе.

Здавалася б, цяжкасці ў забеспячэнні рэспублікі цэментам абавязваюць усіх, хто мае дачыненне да вырашэння гэтага пытання, зрабіць максімум магчымага і забяспечыць апераджальнае будаўніцтва прадпрыемстваў. Аднак план васьмі месяцаў на будаўніцтве завода ў Касцюковічах выканан на 90 працэнтаў, у Ваўкавыску — на 61.

Актыўна трэба шукаць шляхі эканоміі будматэрыялаў. Толькі ў Мінбудзе БССР з-за парушэнняў у выкарыстанні матэрыялаў страчана ў мінулым годзе 4,6 тыс. тон металапракату, 14,4 тыс. тон цэменту, 45 тыс. кв. метраў лінолеуму, каля 25 тыс. кв. метраў шкла.

Абгрунтаваныя прэтэнзіі трэба прад'явіць Дзяржбуду БССР і яго навуковым падраздзяленням. Многія праекты матэрыялаёмістыя, дарагія, патрабуюць нямала працоўных затрат, невыразныя па архітэктурна-мастацкаму абліччу. У той жа час празмернае захапленне тыпавым праектаваннем, арыентацыя ў асноўным на буйнапанельнае домабудаванне прывялі да таго, што забудова рада гарадоў, пасёлкаў і вёсак стала аднастайнай.

Тут вялікае поле дзейнасці для архітэктараў, інжынераў, навуковых работнікаў. Мы чакаем ад іх творчага падыходу да справы і нестандартных рашэнняў. Будоўлям патрэбны безадходныя тэхналогіі, эфектыўныя будаўнічыя матэрыялы і канструкцыі, сучасныя сродкі механізацыі, якія дазваляюць рэзка ўзняць тэхнічны ўзровень будаўніцтва.

Вучоныя і спецыялісты павінны ўнесці свой уклад у паскоранае ажыццяўленне жыллёвай праграмы. Патрэбны прынцыпова новыя рашэнні, пошукі спосабаў узвядзення дамоў без традыцыйных матэрыялаў —цэменту і металу.

Шляхі далейшага развіцця вытворчасці будаўнічых матэрыялаў, вырабаў і канструкцый адобраны Бюро ЦК Кампартыі Беларусі. Цяпер справа за выкананнем. Ад таго, наколькі ўмела Савет Міністраў БССР накіруе і скаардынуе намаганні савецкіх і гаспадарчых органаў, усіх кадраў, працоўных калектываў, занятых у гэтай галіне, будзе залежаць паспяховае вырашэнне многіх сацыяльных пытанняў, ды і не толькі сацыяльных, а значыць, і поспех перабудовы.

# IV.

Таварышы! Напружаных намаганняў партыйных, савецкіх і гаспадарчых органаў, усіх працоўных калектываў запатрабуе насычэнне рынку разнастайнымі таварамі і паслугамі. За два гады іх аб'ём павялічыўся адпаведна на 14,7 і 27,7 працэнта, за 8 месяцаў бягучага года — на 7,2 і 18,1 працэнта. Выконваюцца планы рознічнага тавараабароту.

Нядаўна прынятай пастановай Савета Міністраў СССР выпуск спажывецкіх вырабаў толькі па прамысловасці рэспубліканскага падпарадкавання прадугледжана давесці ў наступным годзе да 1 млрд. 950 млн. рублёў, 1990-м—да 2 млрд. 60 млн. рублёў.

Прадпрыемствам жа лёгкай прамысловасці рэспублікі неабходна дадаткова вырабіць тавараў за 1989—1990 гады на 712 млн. рублёў.

Бюро ЦК КПБ разгледзела шляхі рэалізацыі гэтай задачы. Савет Міністраў БССР завяршае распрацоўку заданняў кожнаму міністэрству і ведамству, усім абласцям, гарадам і раёнам, працоўным калектывам.

Выконваючы іх, неабходна, з аднаго боку, апірацца на набыты ў рэспубліцы вопыт, з другога — хутчэй зжываць недахопы і хібы.

Штомесячна 50—60 прадпрыемстваў не выконваюць план вытворчасці тавараў, 140—150— зніжаюць аб'ёмы іх выпуску. Больш за ўсё такіх фабрык і аб'яднанняў у Брэсцкай, Віцебскай, Мінскай абласцях.

Пры перавыкананні заданняў Рэспубліканскай комплекснай праграмы па аб'ёмных паказчыках міністэрствы лёгкай, мясцовай, лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасці і некаторыя іншыя не спраўляюцца з імі ў наменклатуры.

Сур'ёзную заклапочанасць выклікае вытворчасць тавараў на неспецыялізаваных прадпрыемствах. Калі ў Гродзенскай і Віцебскай абласцях яна складае на рубель фонду заработнай платы адпаведна 1 рубель 7 капеек і 1 рубель 1 капейку, то ў Мінску больш чым на палавіне прадпрыемстваў гэты паказчык не перавышае 40 капеек. У бягучым годзе неспецыялізаваныя заводы горада павінны выпусціць спажывецкіх вырабаў на 81 капейку, за першае ж паўгоддзе іх выпушчана толькі на 62 капейкі.

Вы звярнулі ўвагу, з якой вастрынёй Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, будучы ў Краснаярску, паставіў пытанне аб спыненні заганнай практыкі вымывання танных тавараў. Многія прадпрыемствы, выкарыстаўшы гаспадарча-разліковыя правы, спрабуюць свае фінансавыя справы папраўляць толькі за кошт выпуску дарагіх вырабаў.

Такія факты маюць месца на гродзенскай абутковай фабрыцы «Нёман», Мінскім камвольным камбінаце, на некаторых іншых. На бягучы год заказ гандлю на дарагія паліто для моладзі задаволен Мінлегпромам БССР на 137 працэнтаў, а на танныя, і асабліва зручныя для асоб пажылога ўзросту,— на 44.

Такі падыход працуе не на перабудову, а супраць яе. І спасылкі т. Гулева, кіраўнікоў іншых міністэрстваў на тое, што працоўныя калектывы, атрымаўшы самастойнасць, выкарыстоўваюць яе для ўмацавання эканомікі і развіцця сацкультбыту шляхам павышэння цэн, нельга лічыць апраўданымі.

Больш таго, яны супярэчаць літары і духу Закона аб дзяржпрадпрыемстве. У ім дакладна сказана, што патрабаванні спажыўца абавязковыя для прадпрыемства, а іх поўнае і своечасовае задавальненне — вышэйшы сэнс і норма дзейнасці кожнага працоўнага калектыву.

Гэтым палажэннем павінны няўхільна кіравацца і выканкомы мясцовых Саветаў, з якімі, згодна з тым жа законам, абавязаны ўзгадняць праекты сваіх планаў па вытворчасці тавараў народнага спажывання ўсе без выключэння заводы і аб'яднанні, што знаходзяцца на тэрыторыі данага Савета. І не проста кіравацца, але і праяўляць пры гэтым неабходную цвёрдасць і настойлівасць.

Ідучы на повадзе ў прадпрыемстваў, якія вымываюць танныя тавары, органы цэнаўтварэння Дзяржплана і аблвыканкомы. Больш прадметна займацца пытаннем, якое закранае інтарэсы ўсяго насельніцтва, павінны Савет Міністраў БССР, партыйныя камітэты, аддзелы ЦК КПБ.

Абавязаны знайсці сваё месца ў гэтым і прафсаюзныя органы, Камітэт народнага кантролю. І яшчэ вось над чым трэба падумаць: пры Саветах народных дэпутатаў трэба было б стварыць пастаянныя дэпутацкія камісіі для кантролю за вырашэннем такіх важных сацыяльна-эканамічных пытанняў, як цэнаўтварэнне і захаванне дысцыпліны цэн.

І не толькі ў вытворчасці тавараў шырокага спажывання, але і ў іншых сферах эканомікі, у тым ліку ў сферы платных паслуг.

Тое, што за студзень — жнівень насельніцтву рэспублікі аказана паслуг на 18 працэнтаў больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года, нікога не павінна супакойваць. Сёння патрэбны іншыя крытэрыі ацэнак і іншыя тэмпы.

Доля затрат насельніцтва на аплату паслуг у іх грашовых расходах складае ўсяго 8 працэнтаў. Па аб'ёму платных паслуг у разліку на аднаго жыхара рэспубліка знаходзіцца ў краіне на сёмым месцы. Мы адстаём ад сярэднесаюзных паказчыкаў па паслугах пасажырскага транспарту, жыллёвай гаспадаркі, фізічнай культуры і спорту, а таксама турысцка-экскурсійных і санаторна-курортных устаноў. Па-ранейшаму вялікая розніца ў аказанні паслуг паміж абласцямі і раёнамі рэспублікі.

У ліквідацыі дэфіцытнасці паслуг павінна быць павышана роля прадпрыемстваў, асабліва саюзнага падпарадкавання. У мінулым годзе імі недададзена паслуг на 9,3 млн. рублёў. Кожнае трэцяе з іх не справілася з планам. Не палепшылася становішча і ў бягучым годзе. У Брэсцкай і Гомельскай абласцях аб'ём паслуг на гэтых прадпрыемствах у разліку на рубель фонду заработнай платы складае 4 кап., а ў Магілёўскай — толькі 3.

Не скарачаюцца прэтэнзіі працоўных на нізкую культуру абслугоўвання. Міністэрства бытавога абслугоўвання БССР імкнецца пабольш перавесці сваіх арганізацый і прадпрыемстваў у больш высокую катэгорыю, мала што робячы па павышэнню якасці іх работы. І дзіўна, што гэтаму патураюць мясцовыя Саветы. Праведзенай у гэтым годзе праверкай 263 падраздзяленняў Мінбыта БССР устаноўлена, што амаль у кожным пятым з іх узровень абслугоўвання не адпавядае ўстаноўленай разраднасці.

Бюро ЦК КПБ даручыла членам ЦК тт. Кавалёву і Кебічу распрацаваць праграму карэннага паляпшэння сферы паслуг насельніцтву з тым, каб ужо з будучага года штогадовы прырост паслуг быў на 15—20 працэнтаў большы, чым намячалася комплекснай праграмай.

Што датычыць гандлю, то можна сказаць, што ў апошні час становішча з выкананнем плана тавараабароту стабілізавалася. Дадаткова прададзена тавараў на 264 млн. рублёў.

Ведаеце, пра што я цяпер падумаў? Гэты даклад будзе апублікаваны, прачытаюць яго людзі, і ў многіх абавязкова ўзнікне абгрунтаванае неўразуменне: *што ж гэта такое,* планы перавыконваюцца, а на куплю патрэбнай рэчы, самай што ні на ёсць працейшай, затрачваеш безліч часу.

І гэта сапраўды так. Выходзіць, ненапружаныя планы? Сказаць так — значыць папрашыць супраць ісціны. Сутнасць у іншым. Вось некалькі карцінак, як кажуць, з натуры.

Сярэдзіна жніўня. Магазін № 13 Брэсцкага гарплодаагароднінагандлю. У продажы няма морквы, буракоў, кропу, рэдзькі, часнаку, цыбулі, яблыкаў. А на палях калгасаў і саўгасаў гэтых прадуктаў поўна.

Мінскі універсам «Рыга». Першая палавіна дня. З 17 касавых апаратаў працуюць 3, і да кожнага — чарга ў 20—25 чалавек. За чэргамі спакойна назіраюць з гандлёвай залы з дзесятак чалавек у белых халатах. Людзі абураюцца. Дырэктар універсама папулярна растлумачвае: чэргі — сацыяльнае зло, усе церпяць яго, цярпіце і вы, таму што работнікі ў зале — кантралёры, а *не касіры...*

Разгар лета. Возера Нарач. Сотні адпачываючых раздражнёна ходзяць па беразе ў пошуках бутэлькі вады, шклянкі квасу. Марна!

У многіх правераных магазінах на працягу доўгага часу адсутнічаюць у продажы сала, маянэз, воцат, пернікі, пячэнне і нават хлеб.

Што ж аб'ядноўвае гэтыя факты? Перш за ўсё нежаданне і няўменне работнікаў гандлю распарадзіцца нават тымі таварамі, якія ёсць у дастатковай колькасці, нізкае пачуццё адказнасці за даручаную справу, няўвага да сябе і да пакупніка.

І аднесці гэта трэба не толькі на рахунак калектываў прадпрыемстваў гандлю, пра якія ідзе размова, але і на рахунак службовых асоб, якія кіруюць галіной.

Тыя ж чэргі. Некаторыя работнікі гандлю разглядаюць іх як непазбежнасць, як неад'емную частку гандлёва-тэхналагічнага працэсу. Ці можна згадзіцца з такімі сцвярджэннямі? Ні ў якім разе. Гэта не што іншае, як спроба апраўдаць перш за ўсё ўласныя недапрацоўкі, нязручны для пакупніка, але зручны для прадпрыемстваў гандлю рэжым работы, нядобрасумленныя адносіны да справы.

Неабходна адмовіцца і ад вузкага погляду на чаргу як на групу людзей, якія стаяць ля прылаўка. А калі чалавек прыйшоў за патрэбнай рэччу, а яму гавораць: няма сёння, загляніце заўтра? Калі і на наступны дзень ён чуе тую ж параду? Адсутнасць у продажы тавараў, якіх у рэспубліцы дастаткова, — хіба гэта не тая ж чарга, не яе скрытая форма?

У некаторых рэгіёнах краіны чэргаў у прадуктовых магазінах няма ўжо даўно. Нямала там пабывала супрацоўнікаў Мінгандлю БССР. Знаёміліся яны і з арганізацыяй работы касавых апаратаў у гадзіны пік з 2—3 касірамі, бачылі і спецыяльныя аддзелы, адкрытыя ў больш ранні і позні час у параўнанні з асноўным рэжымам работы магазіна.

Аднак да апошняга часу нічога з гэтых нававядзенняў не было ўкаранёна. І толькі за час падрыхтоўкі гэтага даклада становішча пачало некалькі мяняцца.

Чэргі ёсць і ў іншых сферах, звязаных з задавальненнем *матэрыяльных і духоўных* запатрабаванняў працоўных. І ўсюды ім трэба даваць рашучы бой.

Вядома, работнікам гандлю лягчэй прадаць, скажам, тэлевізар або халадзільнік, чым дзесятак скрынак мінеральнай, фруктовай вады. Прасцей атрымаць эшалон агародніны з Балгарыі, чым закупіць яе ў насельніцтва рэспублікі. Але ці можна лічыць, што гэта ўзаемазамяняльна? Інакш чым растлумачыць той факт, што нашы людзі і сёння, як і многа гадоў назад, зведваюць велізарныя цяжкасці ў збыце агародніны і садавіны?

Толькі ў кожным другім сельскім Савеце адкрыты прыёмана-рыхтоўчыя пункты. Няма іх ні ў адным з амаль дзвюх тысяч садова-агародных таварыстваў. І вось вынік: заданне двух гадоў па нарыхтоўках садавіны выканана на 82 працэнты, а сёлетняга года — толькі на трэць. У многіх месцах ужо ў студзені спажыўкааперацыя не гандлюе морквай, салёнымі агуркамі, мочанымі яблыкамі, іншай прадукцыяй, атрыманай у рэспубліцы.

Аднак было б няправільным усе недахопы ў рабоце гандлю адносіць выключна на яго рахунак. Значныя цяжкасці ў арганізацыі гандлёвага працэсу ўзнікаюць з-за крайне нераўнамернай пастаўкі прамысловасцю тавараў. Ні для каго не сакрэт, што немалая частка паставак прыпадае на апошнюю дэкаду, а то і пяцідзёнку месяца.

Сур'ёзна тармозіць развіццё прагрэсіўных, зручных для пакупнікоў форм гандлю тое, што прамысловасць мала пастаўляе гатовых да продажу тавараў. У фасаваным выглядзе гандаль атрымлівае ўсяго 44 працэнты макаронных, 40— кандытарскіх вырабаў, 52 — мукі, 60 — алею, 35,7 працэнта мяса. Таварышам Хусаінаву і Макаеду разам з зацікаўленымі міністэрствамі і аблвыканкомамі трэба выпрацаваць меры па вырашэнню гэтага пытання і рэалізаваць іх.

Важна ўсямерна паскорыць развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы сферы паслуг, яе пераасначшэнне, і перш за ўсё змяніць адносіны да будаўніцтва яе аб'ектаў. З пачатку пяцігодкі на іх узвядзенні недаасвоена больш чым 21 млн. рублёў (15,5 працэнта).

Выканкомам мясцовых Саветаў, міністэрствам і ведамствам, Савету Міністраў БССР неабходна распрацаваць і ажыццявіць канкрэтную сістэму мер, якія дазволілі б у бліжэйшы час ліквідаваць чэргі ў гандлі і іншых сферах абслугоўвання насельніцтва.

Таварышы! Усе мы бачым і адчуваем, які грамадскі рэзананс маюць праблемы экалогіі. Для нашай рэспублікі ўзмацненне ўвагі да іх звязана з вынікамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, з наяўнасцю прадпрыемстваў з устарэлай тэхналогіяй, а таксама заводаў і аб'яднанняў з сучаснай тэхналогіяй, але без устройстваў для паглынання і ўтылізацыі шкодных рэчываў. На жаль, да апошняга часу гэтыя пытанні былі быццам бы другараднымі і для Дзяржплана, і для навукі, і для Дзяржкампрыроды БССР.

Сёння праблема аховы навакольнага асяроддзя паўстала перад урадам рэспублікі ва ўвесь рост. Па нашых просьбах ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР падключылі да яе вырашэння намеснікаў Старшыні Савета Міністраў СССР, рад саюзных міністэрстваў, Акадэмію навук краіны.

**(Заканчэнне на стар. 6—7).**

нашай задачай. Пры гэтым вялікае значэнне набываюць арганізаванасць, ініцыятыва камуністаў, актыўная пазіцыя кожнага члена партыі ва ўсталяванні новых падыходаў у барацьбе з недахопамі, бюракратызмам, недысцыплінаванасцю і безадказнасцю.

Вельмі важна, каб у цяперашні паваротны час пярвічныя партарганізацыі своечасова і правільна рэагавалі на новыя з'явы, не адставалі ад падзей, наладжвалі дзелавыя ўзаемаадносіны з усімі самадзейнымі фарміраваннямі працоўных.

Узяць саветы працоўных калектываў. Іх у рэспубліцы больш як 4,5 тысячы. Многія ўжо набралі сілу і робяць істотны ўплыў на вырашэнне вытворчых і сацыяльных задач.

Разам з тым нельга не бачыць і складаных, часам супярэчлівых працэсаў. Па-першае, некаторыя нават вопытныя кіраўнікі перадавых калектываў упарта імкнуцца ўсім распараджацца аднаасобна, не жадаючы перадаць у іншыя рукі ні адну ніць кіравання. Гэта, у прыватнасці, праявілася і пры стварэнні саветаў.

У Заводскім раёне г. Мінска, напрыклад, 18 саветаў з 35 узначалілі самі кіраўнікі. І ўжо выяўлены спробы арганізаваць работу новых фарміраванняў па прынцыпу дрэнна зарэкамендаваўшых сябе пастаянна дзеючых вытворчых нарад. Як жа адрэагавалі на гэта партарганізацыі? Райком і гарком партыі?

Мякка кажучы, занялі пазіцыю пабочных назіральнікаў.

Гэта яўная недаацэнка ролі саветаў працоўных калектываў як новай формы самадзейнай творчасці працоўных, як важнейшага канала падключэння рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых да актыўнага вырашэння пытанняў перабудовы. Не трэба забываць: савет працоўнага калектыву — гэта не савет пры дырэктару. Справу трэба выпраўляць.

Па-другое, у састаў саветаў нярэдка выбіраюцца не тыя, хто лепш працуе, а тыя, хто пад прыкрыццём дэмакратыі займаецца дэмагогіяй. І адбываецца гэта таму, што камуністы не змаглі паказаць сапраўднае аблічча такіх людзей, тым самым асуджаючы новыя фарміраванні на пасіўнасць або неканструктыўныя дзеянні.

Перабудова паставіла павышаныя патрабаванні да кадраў. Сёння, як ніколі, на ўсіх участках неабходны па-сучаснаму мыслячыя работнікі, высокакваліфікаваныя спецыялісты, свядомыя змагары за абнаўленне.

Як паказаў разгляд у Бюро ЦК Кампартыі Беларусі справаздачы Мінскага абкома партыі аб рабоце па падбору, расстаноўцы і выхаванню кадраў, намаганні партыйных камітэтаў у гэтым напрамку яшчэ не ў поўнай меры адпавядаюць устаноўкам XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС.

У прамысловасці амаль палавіна начальнікаў цэхаў, змен і участкаў, трэць работнікаў інжынерных службаў, кожны пяты галоўны спецыяліст не маюць вышэйшай кваліфікацыі. І гэта ў вобласці, дзе сканцэнтраван велізарны навуковы патэнцыял, буйнейшыя ВНУ рэспублікі.

Аналагічнае становішча з кадрамі і ў Гродна. Тут не маюць вышэйшай адукацыі кожны трэці галоўны спецыяліст у прамысловасці, амаль палавіна начальнікаў цэхаў, змен, участкаў і іх намеснікаў.

З кім жа рухаць наперад навукова-тэхнічны прагрэс, укараняць рэсурсазберагаючыя і безадходныя тэхналогіі, павышаць якасць прадукцыі, зніжаць яе сабекошт?

Прыведзеныя лічбы сведчаць, што і ў партыйных камітэтах на месцах, і ў аддзелах ЦК КПБ яшчэ не зрабілі неабходнага павароту да работы з кадрамі. Да гэтага часу ВНУ, тэхнікумы, ПТВ рыхтуюць спецыялістаў столькі, колькі дазваляе наяўнасць вучэбных месц, а не столькі, колькі іх патрэбна для кожнай галіны народнай гаспадаркі. Ніякай сістэмы тут як не было, так і няма.

Замест пошуку шляхоў вырашэння праблемы некаторыя адказныя работнікі спрабуюць даказаць, што зрабіць гэта немагчыма. Згадзіцца з такой думкай — значыць пусціць важнейшы ўчастак работы на самацёк.

Вывады з гэтага павінны зрабіць і міністры, і намеснікі Старшыні Савета Міністраў БССР, і аддзелы ЦК КПБ. Узначаліць жа ўсю работу па навядзенню парадку ў падрыхтоўцы і выкарыстанні кадраў, у тым ліку і кадраў масавых прафесій, паўтараю, павінны аддзел арганізацыйна-партыйнай работы (т. Борыс), другі сакратар ЦК КПБ т. Ігруноў.

Рэформа палітычнай сістэмы прадугледжвае канкрэтныя меры па рэарганізацыі структуры Саветаў усіх ступеней, абнаўленню і дэмакратызацыі выбарчай сістэмы. Ажыццяўляцца яны будуць у гранічна сціслыя тэрміны. Разам з тым было б няправільным меркаваць, што гэтыя меры самі па сабе вырашаць усе праблемы перабудовы работы Саветаў.

Давайце паглядзім, хто выбран у Саветы народных дэпутатаў, а таксама ў прафсаюзныя, камсамольскія камітэты, кіраўніцтва самадзейных грамадскіх фарміраванняў. У сваёй большасці гэта найбольш адукаваныя, аўтарытэтныя і сацыяльна актыўныя людзі.

Значыць, галоўны наш абавязак заключаецца ў тым, каб забяспечыць умовы і належнае патрабаванне за прымяненне гэтых якасцей. І пачынаць неабходна з камуністаў. У прыватнасці, не перашкодзіць паслухаць на партсходах справаздачы камуністаў-дэпутатаў аб дэпутацкай дзейнасці. Бо ёсць такія, што не былі ў сваіх акругах з дня выбараў. Якая ж ад іх карысць выбаршчыкам?

Калі ж узяць кіруючых прафсаюзных работнікаў, то сярод іх больш за ўсё, бадай, людзей, умудроных жыццёвым вопытам. Вось ад іх у першую чаргу і трэба спытаць, чаму амаль палавіна звальненняў па ініцыятыве адміністрацыі, на якія даюць згоду прафсаюзныя камітэты, адмяняюцца судамі.

Сёння паварот да чалавека, да яго сацыяльных клопатаў і духоўнага свету павінен стаць вызначальным у ідэалагічнай рабоце кожнай партарганізацыі. Пакуль што гэта атрымліваецца не заўсёды. Многія ідэалагічныя работнікі, гаспадарчыя кіраўнікі аказаліся слаба падрыхтаванымі да асэнсавання новых момантаў рэчаіснасці. Не гаворачы ўжо аб перабудове практычнай дзейнасці.

Або ўзяць гаспадарчы разлік. У некаторых калектывах, укараніўшы яго, сталі скарачаць і без таго нешматлікіх работнікаў клубаў, мастацкіх кіраўнікоў, сацыёлагаў, метадыстаў па фізкультуры і спорту. Ці з таго канца пачалі? Так можна загубіць усякую аснову ідэалагічнай работы.

А колькі ўзнікае маральных, чыста чалавечых праблем? У асобных брыгадах, цэхах пачалі пазбаўляцца ад людзей перадпенсіённага ўзросту, мнагадзетных маці, навічкоў-падлеткаў. Гаспадарчы разлік — гэта адно, але ёсць каштоўнасці, якія не вымяраюцца ні грашамі, ні прыбыткамі. Пра гэта нельга забываць.

Хацеў бы асобна падкрэсліць ролю нашых слаўных ветэранаў у ажыццяўленні перабудовы. Яны заўсёды — і ў гады рэвалюцыі, грамадзянскай і айчыннай войнаў, і ў перыяд аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі — былі не проста надзейнай апорай партыі, а сваімі працоўнымі і ратнымі справамі натхнялі нашых людзей на дасягненне перамог і здзяйсненняў.

Абавязак партыйных арганізацый — шырока выкарыстоўваць іх найбагацейшы палітычны і жыццёвы вопыт, рэвалюцыйны аптымізм, непахісную вернасць ленінскім ідэалам.

Пастаянную духоўную падпітку нашым кадрам павінны даваць вучоныя-грамадазнаўцы. За два з палавінай гады ў рэспубліцы выпушчана звыш 90 назваў кніг аб перабудове. Але цяжка ў іх знайсці элементы навізны і свежасці думкі.

Мінская Вышэйшая партыйная школа (рэктар т. Вайцяхоўскі) прапанавала да выдання рукапіс «Аснова партыйнай работы» (аб падборы, расстаноўцы і выхаванні кадраў). Парадна-хвалебны тон, справаздачы аб праведзенай рабоце і поўная адсутнасць рэкамендацый, як весці кадравую палітыку далей. І такое нараджаецца ў Вышэйшай партыйнай школе — цэнтры кадравай падрыхтоўкі.

Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ (дырэктар т. Платонаў) рэкамендаван да выпуску рукапіс «Аграпрамысловы комплекс раёнаў». Напісан ён сумбурна, на старым матэрыяле, праблем цяперашняга і заўтрашняга дня ў ім і днём з агнём не знайсці.

Не зніжаючы патрабавальнасці да выдавецтваў, мы абавязаны павысіць персанальную адказнасць кіраўнікоў навуковых калектываў за ўзровень навуковых даследаванняў, за якасць прапануемых матэрыялаў.

Сітуацыя цяпер такая, што ні адна праблема перабудовы не можа быць вырашана без уліку нацыянальных адносін. Нацыянальных жа пытанняў, як вядома, у чыстым выглядзе не бывае. Яны заўсёды цесна звязаны з палітычнымі, эканамічнымі, сацыяльнымі, маральнымі. Таму ўсім — і партыйным, і гаспадарчым, і ідэалагічным работнікам — трэба быць больш кампетэнтнымі і абачлівымі ў справах, якія складаюць сутнасць міжнацыянальных адносін, іх культуру.

У сувязі з пераходам рэспублікі на прынцыпы гаспадарчага разліку і самафінансавання Дзяржкамстат БССР, сродкі масавай інфармацыі павінны даваць поўную карціну яе эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва. Трэба, каб у кожнай вобласці, горадзе, раёне людзі добра ведалі, які ўклад яны ўносяць у адзіны народнагаспадарчы комплекс, і тыя даброты, якія атрымліваюць з агульных фондаў.

Пара мець дакладную сістэму інфармавання насельніцтва ў сферы міжнацыянальных адносін. Гэта зробіць больш прадметнай практыку патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання. Распрацоўка такой сістэмы за ідэалагічным і сацыяльна-эканамічным аддзеламі ЦК КПБ.

ЦК Кампартыі Беларусі, урад рэспублікі паслядоўна праводзяць лінію на рэалізацыю доўгатэрміновых і аператыўных мер па развіццю беларуска-рускай двухмоўнасці, павышэнню ролі беларускай мовы і культуры ў грамадскім жыцці.

Прыняты важныя рашэнні па развіццю Акадэміі Навук БССР, Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна, захаванню гісторыка-культурных ансамбляў у Нясвіжы і Заслаўі, удасканаленню эстэтычнага выхавання моладзі. У праграму работы партыйных, савецкіх органаў па перабудове народнай асветы ўключан спецыяльны раздзел па беларуска-рускай двухмоўнасці, паляпшэнню патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання.

У гарадах рэспублікі адкрываюцца беларускамоўныя дзіцячыя сады і класы ў агульнаадукацыйных школах, расшырыліся маштабы вывучэння роднай мовы ў вышэйшых навучальных установах, растуць тыражы выданняў на беларускай мове, узбагачаецца творамі беларускіх аўтараў рэпертуар творчых прафесіянальных і самадзейных калектываў. Ажыццяўляюцца меры па паляпшэнню падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў для выкладання беларускай мовы і літаратуры.

Зразумела, гаворка не ідзе аб фарсіраваным, загадным вырашэнні праблемы. Яна можа і павінна ажыццяўляцца праз творчыя, ініцыятыўныя адносіны да справы як з боку камуністаў, якія працуюць у рэспубліканскіх міністэрствах і падведамных ім арганізацыях, так і ў мясцовых партыйных, савецкіх, прафсаюзных, камсамольскіх, гаспадарчых органах, ва ўстановах культуры і творчых саюзах.

Многія беды ў грамадскай свядомасці, паводзінах, нават у эканоміцы ідуць ад нізкай прававой культуры насельніцтва. Кожнае трэцяе злачынства ўчыняюць навучэнцы сістэмы прафтэхадукацыі, кожнае чацвёртае — вучні агульнаадукацыйных школ, правасвядомасць якіх вызначаецца нулявой адзнакай.

І гэта ў той час, калі правазнаўства вывучаецца ў многіх навучальных установах. У чым справа? З 5 тысяч выкладчыкаў права юрыдычную адукацыю маюць толькі 200 чалавек. У народзе кажуць: бяда, калі пірагі пачне пячы шавец, а боты шыць піражнік.

Жыццё настойліва патрабуе: неабходна арганізаваць прававы ўсенавуч, і перш за ўсё распрацаваць сістэму прававой падрыхтоўкі кадраў, прававога выхавання працоўных. Для гэтага ў кожным горадзе і раёне мэтазгодна мець універсітэт прававых ведаў, у працоўным калектыве — школу юрыдычнага ўсенавуча, у маладзёжных інтэрнатах — лекторыі або курсы маральна-прававой адукацыі і выхавання.

Прававым пытанням у апошні час больш увагі ўдзяляюць сродкі масавай інфармацыі. Але справа часта зводзіцца да рэпартажаў аб тэхналогіі найбольш хітрых злачынстваў. Займальна, эмацыянальна, а на паверку выходзіць, што такое асветніцтва толькі на карысць злачынцам.

Ёсць і другая крайнасць. Некаторыя газеты вельмі многа ўвагі звяртаюць на паказ недахопаў у рабоце праваахоўных органаў. І гэта правільна. Іх трэба ачышчаць ад наслаенняў мінулага, але дрэнна, калі такія артыкулы пішуцца з пагарджальнымі адносінамі да права, калі маральныя нормы проціпастаўляюцца нормам прававым. Чытач непазбежна настройваецца на канфлікт з законам, а не на саюз з ім. Прававую прапаганду, як і любую справу, трэба рабіць з разважным сэнсам.

І яшчэ аб дзвюх крайнасцях у рабоце сродкаў масавай інфармацыі.

З аднаго боку, многія газеты, часопісы, рэдакцыі тэлебачання, радыёвяшчання не заўсёды адчувальныя да ўсяго новага, што нясе перабудова, дэмакратызацыя.

З другога, не зжыты спробы асобных выданняў выдзеліцца любой цаной, хутчэй заявіць аб сабе абнародаваннем чарговай сенсацыі на шкоду аналітычнасці, дакладнасці, Гэтым грашаць і «Звязда», і «Літаратура і мастацтва».

Мы прадаставілі больш самастойнасці і правоў асабіста рэдактарам газет і часопісаў, адмовіліся ад дробязнай апекі, ад каманднa-адміністрацыйных метадаў кіраўніцтва прэсай. Але некаторыя кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі ўспрынялі гэта як індульгенцыю на бескантрольнасць і ўсёдазволенасць.

Трэба строга патрабаваць ад тых, хто замест таго, каб накіраваць друкаванае слова, эфір на служэнне перабудове, лье ваду на млын тых, хто імкнецца загаварыць яе.

●

Таварышы! Набліжаецца 70-годдзе рэспублікі і Кампартыі Беларусі. Усю арганізатарскую і палітычную работу па падрыхтоўцы да гэтай знамянальнай падзеі трэба накіраваць на дасягненне канкрэтных пазітыўных зрухаў у развіцці эканомікі і культуры. Галоўны абавязак кожнага камуніста, кожнай партарганізацыі, кожнага працоўнага калектыву — дабівацца іх штодзённа, штогадзінна, паскараючы і паглыбляючы перабудову ва ўсіх сферах жыцця.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### «НАРОД, КУЛЬТУРА, ПЕРАБУДОВА»

3 кастрычніка ў Мінску, у Доме літаратара, адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Народ, культура, перабудова». У ходзе канферэнцыі, якая павінна стаць важнай падзеяй у палітычным і культурным жыцці Беларускай ССР, мяркуецца ўзняць кардынальныя, глыбінныя пытанні гісторыі беларускай культуры, яе сучаснага стану ва ўзаемадзеянні з праблемамі дэмакратызацыі і галоснасці.

У рабоце аргкамітэта прынялі ўдзел прадстаўнікі творчых саюзаў рэспублікі, АН БССР, Беларускага фонду культуры, Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Міністэрства культуры БССР, Міністэрства народнай адукацыі БССР, сродкаў масавай інфармацыі, некаторых іншых устаноў і арганізацый.

Удзельнікі пасяджэння выказалі свае прапановы аб парадку дня канферэнцыі і яе правядзенні.

Старшынёй аргкамітэта быў выбраны народны пісьменнік БССР В. Быкаў, намеснікамі старшыні — першы намеснік міністра культуры рэспублікі У. Гілеп, старшыня праўлення Саюза мастакоў Беларусі У. Стальмашонак, пісьменнікі А. Мальдзіс і В. Якавенка.

Прынята рашэнне аб правядзенні канферэнцыі ў апошняй дэкадзе студзеня наступнага года. Была таксама выказана прапанова распачаць у рэспубліканскім друку дыскусію па тэме, якая выносіцца на абмеркаванне канферэнцыі.

### «Шматкніжная Амерыка»

**4 кастрычніка ў Мінску, у кнігарні «Светач», адкрылася выстаўка «Шматкніжная Амерыка». З кнігамі з-за акіяна паспелі ўжо пазнаёміцца жыхары Новасібірска, а пасля сталіцы нашай рэспублікі падобная экспазіцыя будзе разгорнута ў Тбілісі. Адначасна ў Злучаных Штатах — у Вашынгтоне, Бостане, Лос-Анжэлесе — амерыканскія чытачы могуць пазнаёміцца з паліграфічнай прадукцыяй нашых выдавецтваў, выстаўленай пад дэвізам «СССР: галоснасць і перабудова». Гэтае мерапрыемства, арганізаванае па ініцыятыве Дзяржкамвыда СССР і Інфармацыйнага агенцтва ЗША, стала магчыма ў выніку падпісання ў лістападзе 1985 года Генеральным сакратаром ЦК КПСС М. С. Гарбачовым і прэзідэнтам Рональдам Рэйганам Агульнага пагаднення пра абмены ў галіне культуры.**

**Адкрылі выстаўку ў Мінску першы намеснік старшыні Дзяржкамвыда БССР С. А. Нічыпаровіч і аташэ па культуры пасольства ЗША ў Маскве Він Яковіч.**

**Выстаўка «Шматкніжная Амерыка» будзе працаваць да 16 кастрычніка. Пасля яе закрыцця ўся тысяча кніг з экспазіцыі будзе перададзена ў дар бібліятэцы Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.**

### Дні Анголы ў Мінску

5 кастрычніка ў Мінску пачаліся Дні савецка-ангольскай дружбы і салідарнасці. У нашай рэспубліцы па запрашэнні Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі знаходзіцца дэлегацыя Народнай Рэспублікі Ангола. У дэлегацыю, якую ўзначальвае дэпутат Нацыянальнай асамблеі Анголы А. Себастыяна, уваходзяць, сярод іншых, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі афрыканскай рэспублікі.

У праграме Дзён — сустрэчы з мінскімі рабочымі, ветэранамі вайны і працы, работнікамі творчых саюзаў, студэнтамі, выступленні ангольскага ансамбля фальклорнага танца «Рэбіта», выстаўка жывапісу і дэкаратыўнага мастацтва Анголы.

У планах нашых гасцей так сама наведанне Брэста і Хатыні.

**Лёс артыкула Аляксея Каўко «Гісторыя: настаўніца і выхавацелька» ў нечым павучальны. З'явіўся ён у рэдакцыі нашага штотыднёвіка дзесяць гадоў назад як водгук на кнігу «Хрестоматия по истории Белоруссии. С древнейших времен до 1917 г.» (Складальнікі: А. Ігнаценка, У. Сідараў, Пад рэд. П. Савачкіна). Мінск, Выд. БДУ імя У. І. Леніна, 1977 г.**

**Аднак пасля «дужа доўгага абгаварэння» гэтага матэрыялу рэдакцыя палічыла тады за лепшае «не ствараць пытання», як было прынята казаць, і... адмовіла аўтару.**

**Прайшоў час, многае змянілася ў нашым жыцці і ў нашай свядомасці. Пабачылі свет і тыя празаічныя і паэтычныя творы, якія пісаліся «для шуфлядаў». Думаецца, нашым чытачам усё ж цікавы будзе той дзесяцігадовай даўнасці артыкул А. Каўко — тым больш, што многія праблемы, закрануты аўтарам, не страцілі актуальнасці, а згаданай хрэстаматыяй студэнты карыстаюцца і сёння.**

# ГІСТОРЫЯ: настаўніца і выхавацелька

**Аляксей КАЎКО**

Хрэстаматыя па гісторыі Беларусі цікавіць не толькі сваіх непасрэдных адрасатаў — студэнтаў і настаўнікаў гістарычнага профілю, але, можна спадзявацца, масавага чытача, чый духоўны попыт адзначаецца імкненнем глыбей пазнаць мінулае свайго народа, спасцігнуць пераемнасць сённяшняй сацыялістычнай рэчаіснасці з вызваленча-рэвалюцыйным змаганнем папярэдніх пакаленняў, усвядоміць тым самым асабістае месца ў несупынным гістарычным працэсе.

Гарманічнасць пазнавальных і выхаваўчых якасцей кнігі, аб'ектыўна прадыктаваная яе прызначэннем, залежыць ад адзінства метадалагічных падстаў і падачы факталагічнага матэрыялу, уключаючы паслядоўнасць у асвятленні дакументальнымі сродкамі галоўных зыходных праблем, абазначаных у прадмове да хрэстаматыі. Менавіта з гэтага пункту гледжання ў кнізе заўважаюцца некаторыя хібы, на якіх лічым мажлівым затрымацца, пакідаючы ўвазе знаўцаў прадмета цэласны аналіз хрэстаматыі.

Нашы заўвагі непасрэдна датычаць другой часткі кнігі, якая асвятляе перыяд капіталізму на Беларусі (1857—1917 гг.). Гэты надзвычай важны адрэзак гісторыі арганічна звязаны з працэсам нацыянальнай кансалідацыі беларускага народа, канчатковага фарміравання беларускай нацыі, з нарастаннем класавай, нацыянальна-вызваленчай барацьбы працоўных мас Беларусі ў непарушным саюзе з рэвалюцыйнымі сіламі вялікага рускага народа за сваё сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне.

Дакументальны дапаможнік закліканы абазначыць, па меншай меры, галоўныя праблемы гэтага плана. Прычым першапачатковае значэнне набывае паказ гістарычнай ініцыятывы народных нізоў. Ва ўмовах зняволенай дакастрычніцкай Беларусі гэтая ініцыятыва выявілася ў нястрыманым імкненні вякамі пагарджаемага народа «людзьмі звацца». Імкненне, якому геній Купалы надаў класічную літаратурна-мастацкую і філасафічную выснову, выклікаўшы разуменне і падтрымку з боку дэмакратычнай Расіі.

Між тым праблемы нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі не знайшлі — і ў гэтым нам бачыцца істотнае ўпушчэнне хрэстаматыі — належнага месца сярод комплексу пытанняў гісторыі беларускага народа эпохі капіталізму. З гэтае прычыны прадстаўленую гістарычную карціну цяжка прызнаць дастаткова поўнай і, значыць, — навукова праўдзівай.

Вось факты. Сярод змешчаных у кнізе 46 дакументаў (ці вытрымак з іх), якія асвятляюць другую палову XIX веку, не знаходзім аніводнай нататкі, непасрэдна звязанай з ростам нацыянальнай свядомасці беларусаў, імкненнем да нацыянальнага самаакрэслення, да развіцця сваёй мовы, культуры на ёй. Ні ў адным з прыведзеных дакументаў не страчаем паняццяў «Беларусь», «беларусы», «беларускі народ», «беларуская нацыя», «беларуская мова» — быццам бы яны не існавалі. Урэшце для афіцыяльнай расійскай дзяржавы — Расіі Раманавых і Катковых (у падборцы пераважаюць афіцыяльныя дакументы) абазначаныя паняцці сапраўды не існавалі; не існавала для іх і само «беларускае пытанне», трактаванае не інакш як «польской интригой» у Паўночна-заходнім краі. Але ж наперакор самадзяржаўнай Расіі ўзнімалася новая, рэвалюцыйна-дэмакратычная Расія Герцэна і Чарнышэўскага, Дабралюбава і Горкага, якая горача спачувала бяспраўнаму становішчу беларускага народа, глыбока верачы ў яго жыццяздольнасць і гістарычны патэнцыял.

Ці ж не да месца прыйшліся б у хрэстаматыі вешчыя словы Мікалая Аляксандравіча Дабралюбава, выказаныя ім у супрацьлегласць антынавуковым поглядам адносна самабытнасці насельніцтва Беларусі: «Пытанне пра характарыстыку беларусаў павінна хутка быць растлумачана працамі мясцовых пісьменнікаў. Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы».

«Самі беларусы», як вядома, не прымусілі сябе доўга чакаць, выказаўшы словам і справай Кастуся Каліноўскага, удзельнікаў народніцкага руху («Гоман»), Францішка Багушэвіча, Адама Гурыновіча, Янкі Лучыны сваё права на самабытнае і сацыяльна справядлівае развіццё. Спадчына ж іх прадстаўлена ў хрэстаматыі толькі адным-адзіным урыўкам з «Мужыцкай праўды», асвятляючым пераважна сацыяльна-эканамічны бок паўстання 1863 года. Але ж тое паўстанне адначасова з'явілася штуршком да абуджэння сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці працоўных мас Беларусі. Ад Яські, гаспадара з-пад Вільні, бярэ пачатак катэгорыя «народа» ў развіцці беларускай грамадскай думкі, загучаўшы ў «Лісце з-пад шыбеніцы» і развітальным рэфрэнам, і рэвалюцыйным заклікам: «Браты мае, мужыкі родныя!... Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой **народзе** (тут і далей падкрэслена мною.—**А. К.**). Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, — но не жаль згінуць за тваю праўду. Прыймі, **народзе**, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно з таго света, толькі для дабра твайго напісана...

**...Бывай здаровы, мужыцкі**
**НАРОДЗЕ!**
**Жыві ў шчасці, жыві**
**ў свабодзе...»**

Як бачым, не шмат месца занялі б гэтыя словы ў хрэстаматыі, увасабляючы істотны бок нашай гісторыі.

Нельга не пашкадаваць таксама, што пры асвятленні народніцкага руху на тэрыторыі Беларусі (выдзелены спецыяльны параграф) не знайшлося двух-трох радкоў для народніцкай арганізацыі «Гоман». Менавіта «Гоман» «упершыню выразна і канкрэтна паставіў пытанне аб існаванні беларускай нацыі» (Гісторыя Беларускай ССР, т. 2, Мінск, 1972, с. 156), выступіўшы з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцый за звяржэнне царскага самадзяржаўя, правядзенне глыбокіх сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, за ўстанаўленне раўнапраўных адносін паміж народамі Расіі.

Мы не маем намеру перабольшваць значэння нацыянальнага пытання, разглядаючы яго ў арганічным адзінстве з класавай барацьбой, у падначаленых суадносінах да гэтае барацьбы. Але справа ў тым, што нацыянальны рух у Беларусі і перш за ўсё яго рэвалюцыйна-дэмакратычны кірунак дазваляе глыбей зразумець дыялектыку класавага змагання на чале з пралетарыятам. Ф. Энгельс, напрыклад, разглядаючы «польскае пытанне» і засцерагаючы ад недаацэнкі рабочым рухам нацыянальнага аспекту рэвалюцыйнай барацьбы, падкрэсліваў у пісьме да К. Каўцкага ад 7 лютага 1882 г.: «Устранение национального гнета является основным условием всякого здорового и свободного развития... Для того, чтобы иметь возможность бороться, нужна сперва почва под ногами, воздух, свет и простор. Иначе — все болтовня» (Маркс К. и Энгельс Ф. Сочинения, т. 35, с. 221).

«Беларускае пытанне» па сваёй вастрыні не ўступала ў той час «польскаму пытанню» з тым дадаткам, што беларускі мужык цярпеў патройны ўціск: ад царскага самадзяржаўя, ад польскай арыстакратычнай шляхты, ад айчынных эксплуататараў.

Лепшыя прадстаўнікі беларускага народа барацьбу з нацыянальным уціскам, больш таго — за права насіць сваё натуральнае імя беларусаў — разглядалі ў непарыўнай сувязі са справай палітычнага і сацыяльнага разняволення. У гэтым пераконвае асноўная плынь беларускай дакастрычніцкай літаратуры ў асобах Багушэвіча, Купалы, Коласа, Цёткі, Багдановіча, Гартнага, Гарэцкага, Гаруна, Ядвігіна Ш. з яе сацыяльнай бескампраміснасцю, рэвалюцыйнай рашучасцю, адухоўленнем працоўнага чалавека. І ў той жа час сацыяльна-класавы партрэт героя паўстае перад намі ў канкрэтным нацыянальным абліччы, хоць бы, напрыклад, купалаўскі «мужык-беларус». Мы невыпадкова звярнуліся да літаратуры. З вядомых прычын творчасць беларускіх паэтаў і пісьменнікаў увасабляла поруч з мастацкімі вартасцямі важкія, як на тую пару, гістарычныя і сацыялагічныя абагульненні, даючы імпульс развіццю прагрэсіўнай беларускай грамадскай думкі.

Дарэчы, артыкулы «Ці маем мы права выракацца роднай мовы», «А ўсё ж такі мы жывем!» Я. Купалы, «Шануйце роднае слова» Цёткі, «Беларускае адраджэнне», «Хто мы такія» М. Багдановіча, як і шмат што іншае з крытычнай спадчыны нашых пачынальнікаў, скажуць і падкажуць нешта істотнае не толькі літаратуразнаўцу, моваведу, але гісторыку і філасафу, з тым, што кожны пачэрпне з гэтых глыбокіх і жыватворных крыніц думкі і натхненне на ўласны «прафесіянальны» густ.

Вось чаму, вяртаючыся да непасрэднай тэмы нашых разважанняў, цяжка ўтойваць здзіўленне з наступнага факта: сярод 144 дакументаў, змешчаных у хрэстаматыі для характарыстыкі пачатку XX стагоддзя (1900—1917 гг.), уключаючы 16 з раздзела «Культура», не знайшлося месца дакументам (вытрымкам) непасрэдна звязаным з нацыянальным рухам на тагачаснай Беларусі. Абыдзена маўчаннем спадчына класікаў нашай літаратуры (калі не лічыць вытрымкі з пісьма А. М. Горкага да М. М. Кацюбінскага аб паэзіі Я. Купалы і Я. Коласа), значэнне якой выходзіць за ўласна літаратурныя рамкі. Ані слова пра такія важныя прагрэсіўныя з'явы ў грамадскім жыцці дарэвалюцыйнай Беларусі, як выхад газет «Наша доля» і «Наша Ніва», дзейнасць выдавецкай суполкі ў Пецярбурзе «Загляне сонца ў наша ваконца» — з'явы, што, ўзнёсшыся на хвалі рэвалюцыйнага ўздыму 1905—1907 гадоў, адлюстроўвалі, пры пэўных супярэчнасцях, канкрэтны ўдзел дэмакратычнай грамадскасці ў «генеральнай рэпетыцыі» гістарычнага Кастрычніцкага паўстання 1917 года.

Напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі абуджэнне нацыянальнай свядомасці, нацыянальны рух на Беларусі сталі нагэтульки відавочнымі, што не заўважыць іх, не лічыцца з імі мог хіба што, паводле іранічнай заўвагі Леніна, «только человек... живущий на Марсе».

Прачытаўшы 163 старонкі хрэстаматыйнага тэксту, які адлюстроўвае перыяд з 1857 па 1917 год (с. 268—432), чытач так і не даведаўся ні пра існаванне беларускага народа — канкрэтнай этнічна самабытнай адзінкі, ні пра барацьбу гэтага народа за сваё нацыянальнае самасцвярджэнне, таму міжволі ўзнікаюць сумненні ўжо не толькі наконт гістарычнай паўнаты выдання, але і адносна трываласці метадалагічных падвалін.

Нам могуць запярэчыць, апелюючы да паасобных вытрымак з дакументаў бальшавіцкіх арганізацый, дзе сапраўды поруч з рабочым і аграрнымі пытаннямі ставяцца задачы па ліквідацыі нацыянальнага ўціску, умацаванню інтэрнацыянальнага адзінства працоўных розных нацыянальнасцей. Але нацыянальная праблематыка падаецца ў адным выпадку агульна-тэарэтычным планам, у другім (там, дзе яна канкрэтызуецца) — адносна нацыянальных меншасцей, што жылі на тэрыторыі тагачаснай Беларусі: рускіх, палякаў, яўрэяў, латышоў, армян (напрыклад, дакументы за №№ 16 — с. 336, 18— с. 338, 18 — с. 357, 21 — с. 360, 26 — с. 365, 34 — с. 371, 49 — с. 384, 13 — с. 402); беларуская нацыянальнасць не ўпамінаецца.

Так, у справаздачы Паўночна-заходняга камітэта РСДРП ад 20 снежня 1904 г. гаворыцца аб выданні прапагандысцкіх матэрыялаў на рускай і польскай мовах (с. 339), у паведамленні гэтага ж камітэта ад 20 чэрвеня 1905 г. пра масоўку ў горадзе Рэчыца ўпамінаецца, што ўдзельнічала ў ёй «звыш 50 чалавек рускіх і яўрэйскіх рабочых» (с. 360), у паведамленні газеты «Пролетарий» ад 1 верасня 1905 г. сказана пра рашэнне 1 абласной канферэнцыі РСДРП Паўночна-заходняга краю выдаваць літаратуру «на мясцовых мовах» (с. 365), нарэшце праклaмацыя Паўночна - заходняга саюза РСДРП да сялян ад снежня 1905 г. заклікае, каб «палякі і рускія, яўрэі, армяне — усе без выключэння выбралі на роўных правах» (с. 384) сваіх прадстаўнікоў у сялянскія камітэты. Такім чынам, і ў працытаваных, і ва ўсіх іншых партыйных дакументах, пададзеных у хрэстаматыі, адсутнічаюць упамінанні (за выключэннем цытаты з У. І. Леніна аб яшчэ «не спетай айчыне» для беларусаў і ўкраінцаў, да якой мы вернемся спецыяльна) пра беларускую нацыянальнасць, беларускую мову і г. д. Па зразумелых прычынах адсутнічаюць гэтыя паняцці ў дакументах афіцыяльнай Расіі, якія прадстаўлены данясеннямі ўездных іспраўнікаў, губернатараў, жандарскіх начальнікаў, інспектараў ад асветы.

Ці ж працоўныя масы Беларусі, якія ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы пралетарскай рэвалюцыі, падышлі да Кастрычніка 1917 года без усялякага ўсведамлення сваёй адметнасці (ва ўмовах заканчэння працэсу фарміравання нацыі)? Вядома, што не, хоць фактычны матэрыял хрэстаматыі наводзіць на такую думку.

Пры знаёмстве з прыведзенымі ў дапаможніку дакументамі напрошваецца выснова, што арганізацыі РСДРП Паўночна-заходняга краю — тагачаснай Беларусі — яшчэ канчаткова не дапасавалі праграмна - тэарэтычную лінію партыі, выказванні У. І. Леніна па нацыянальнаму пытанню да канкрэтных умоў існавання беларускага народа, самабытнасць якога, мяркуючы па вышэйпрыведзеных прыкладах, ва ўспрыманні асобных членаў партыі не ўяўляла пытання дастаткова яснага, канчаткова вырашанага. Вось чаму для сучаснікаў важнае значэнне мае кожны дакумент, здольны паказаць аб'ектыўнае ўзаемадзеянне нацыянальнага і сацыяльна-класавага руху ў дакастрычніцкай Беларусі.

Між тым допушчанае ў хрэстаматыі своеасаблівае «абезнацыянальванне» рэвалюцыйнай барацьбы беларускага народа супярэчыць шматвяковаму змаганню за адстойванне сваёй самабытнасці супраць польскіх феадалаў і каталіцкай царквы, за ўз'яднанне з братнім рускім народам. Акрамя таго, гэтая тэндэнцыя супярэчыць той частцы гісторыі, што даволі шырока прадстаўлена ў першым раздзеле хрэстаматыі (перыяд феадалізму). У сувязі з гэтым нельга не заўважыць відавочны парадокс, які вынікае з факта занядбання гістарычна-праблемнай паслядоўнасці і пераемнасці пры падачы дакументаў.

Што датычыць беларускай мовы. У раздзеле «Культура» змешчана вядомае паэтычнае ўсхваленне Янкам Казімерам Пашкевічам (1621 г.) тагачаснага беларускага слова («русчызны»): «Полска квитнет лациною, Литва квитнет русчизною» (с. 252). Аднак на такой мажорнай ноце чытач і развітваецца з пытаннем, якое ў наступныя тры стагоддзі выглядала далёка не мажорна і не квітнеюча. Нават у спецыяльнай падборцы дакументаў перыяду капіталізму пад назвай «Культура» няма ніводнае нататкі аб праблеме беларускай мовы (гл. с. 422—432). Ці ж не існавала праблема?

Хрэстаматыя знаёміць з палітыкай царскіх улад у галіне асветы, са станам пісьменнасці ў паўночна-заходніх губернях, але чамусьці абыходзіць маўчаннем барацьбу дэмакратычна-рэвалюцыйных сіл беларускага народа за развіццё нацыянальнай мовы, за дэмакратызацыю школы, культуры наогул. Аб вастрыні гэтых праблем можна меркаваць па змешчанай у канцы кнігі вытрымцы з працы У. І. Леніна, дзе гаворыцца аб

**(Заканчэнне на стар. 10).**

# ПАМІЖ НАМІ, ДЫЛЕТАНТАМІ...

**Думкі пасля знаёмства з выстаўкай архітэктурных праектаў «НЯМІГА-88»**

КОЖНЫ РАЗ, калі вяртаешся з далёкага падарожжа ў Мінск, міжволі параўноўваеш яго з замежнымі сталіцамі. Што ж, з гонарам крочыш па Ленінскаму праспекту, спачываеш душой у парку Янкі Купалы, мілуешся «паштовачным» краявідам з моста над Свіслаччу. А вось ужо на праспекце Машэрава ахоплівае двоістае пачуццё. Шматпавярховыя гмахі здаюцца не такімі высокімі, як раней, вытаптаныя газоны, пабітыя тратуары і жахлівае стварэнне на фасадзе Дома мадэляў пакідаюць адчуванне пыхлівай правінцыйнасці. Асабліва маркотна робіцца на Нямізе. Нібыта ў цэнтры горада спецыяльна захоўваецца напамін аб колішнім бязглуздым горадабудаўнічым валюнтарызме. Таму вельмі ўсцешыла ідэя правядзення конкурсу на лепшы праект забудовы гэтай шматпакутнай вуліцы.

Падзея гэтая ў прынцыпе вельмі знамянальная. Успамінаецца фанабэрысты адказ аднаго з архітэктурных «генералаў» горада на заўвагу чытача, надрукаваную ў рэспубліканскай газеце наконт забудовы горада. Маўляў, кожны лічыць сябе спецыялістам у архітэктуры, лезе не ў сваю справу. Цікава, як рэагаваў бы гэты дыпламаваны спецыяліст у будаўніцтве на такую ж рэпліку прадаўца, выбіраючы, скажам, гальштук. А будынак — не гальштук. Калі ён не спадабаецца, яго не закінеш у дальні кут шафы і не падарыш знаёмаму на дзень нараджэння. І будуецца ён у рэшце рэшт за кошт тых жа дылетантаў. Таму, паважаныя лаўрэаты, прыслухайцеся да думак простых смяротных, калі яны нават спрэчныя. Вынікі вашай прафесійнай самаўпэўненасці сустракаюцца на кожным кроку. Нават на той жа Нямізе. Час публічнасці патрабуе дыялогу.

А цяпер непасрэдна аб уражаннях ад выстаўкі. Выбар праектаў не надта вялікі. Асабіста мне больш за ўсіх спадабаўся вонкава някідкі праект пад нумарам 4. Усе прадстаўленыя праекты сведчаць аб тым, што на забудову вуліцы сродкаў, відаць, не пашкадуюць, і таму яна будзе весціся па індывідуальных праектах. Што ж, з аднаго боку гэта дае магчымасці для пошукаў, а з другога — накладае вялікую адказнасць. Прапануюцца розныя варыянты: ад камянічак, якія нагадваюць, хоць і прыблізна, архітэктуру нашых гарадоў у часы сярэднявечча, да фантанна-паркавых фантазій са статуямі «плыўчых» эпохі сталінскага «неакласіцызму». Таму цяпер вельмі важна вырашыць, пад што будзе весціся стылізацыя, бо тут існуе рызыка аказацца ў палоне безгустоўнага эклектызму. Відаць, трэба звярнуць увагу на тое, што, калі Верхні горад — асяродак архітэктуры XVI—XVIII стагоддзяў, то частка Нямігі ад моста ў пачатку праспекта Машэрава да вуліцы Рэспубліканскай больш, здаецца, асацыіруецца з канцом XIX—пачаткам XX стагоддзя.

Дома я перагарнуў кнігу «Мінск на старых паштоўках» і паступова пераканаўся ў слушнасці прапаноў аўтараў праекта № 4 і неабходнасці паспрабаваць загладзіць віну перад нашчадкамі за варварства сярэдзіны XX стагоддзя і аднавіць хоць бы знешні выгляд разбураных, у асноўным пасляваенных будынкаў Нямігі. Я маю на ўвазе перш-наперш узнаўленне фасадаў, а астатняе павінна адпавядаць сучаснаму прызначэнню таго ці іншага будынка.

Цяпер хочацца выказаць канкрэтныя прапановы. Планаванне новых аб'ектаў у многім будзе залежаць ад ужо існуючай забудовы. На процілеглым баку вуліцы ўжо будуецца магазін «Дзіцячы свет». Чаму тады не пабудаваць насупраць будынак для тэатра лялек? У сувязі з гэтым варта звярнуць увагу на фатаграфіі будынкаў былога Дваранскага сходу ці Грамадскага сходу, змешчаных на старонцы згаданай вышэй кнігі. А побач з тэатрам можна стварыць адпаведны музей, які б працаваў увесь дзень. Дзякуючы наведванням такога музея горад уваходзіў бы ў свядомасць дзіцяці не натоўпамі універсальных магазінаў, а чароўным і таямнічым светам мастацтва. Таму раю звярнуць увагу і на здымак былой Саборнай плошчы, дзе відаць невялічкі будынак, у якім некалі працаваў тэатр. Побач можна падабраць будынак для цэнтра ігральных аўтаматаў і камп'ютэрных гульняў. Усім вядома, што моладзі ў нашым горадзе няма дзе бавіць вольны час. Што ж, звернем увагу на здымак тэатра - вар'етэ і рэстарана «Акварыум», што знаходзіліся на вуліцы Юр'еўскай. У 1920 годзе ў гэтым будынку працаваў беларускі тэатр пад кіраўніцтвам Уладзіслава Галубка. Пазней тут быў Беларускі рабочы клуб, у якім у час прыезду ў Мінск выступаў Маякоўскі. Думаю, што і ў наш час не трэба баяцца слова «вар'етэ». Мы, відаць, не хутка яшчэ «дакоцімся» да стрыптызу і іншых «жахаў буржуазнага дэкадансу», з якімі асацыіруецца гэта паняцце. А вось утульнай залы, дзе, седзячы за столікам з кавай і (прабачце за крамольную думку!) з бакалам шампанскага пры свечках, можна было б паслухаць папулярных выканаўцаў рамансаў ці аўтарскай песні, гораду вельмі не хапае. Як не хапае і кінатэатра дакументальнага кіно. Прапанаваны аўтарам праекта кінатэатр «Навіны дня» мог увабраць некаторыя рысы колішняга мінскага «электратэатра» «Эдэн». Дамінантай вуліцы магла б стаць аднаўленая гасцініца «Еўропа». Некаторыя ўдзельнікі конкурсу прапанавалі пабудаваць на вуліцы спецыялізаваныя магазіны па продажу тавараў для жанчын і мужчын. Калі ўлічыць, што паблізу — магазін «Алеся» і універмаг, то можна сказаць, што ў дадзеным выпадку адчуваецца патрэба хутчэй у таварах, чым у памяшканнях. Тое ж можна сказаць і аб прапанове стварыць Дом дзіцячай кнігі. Відаць, варта разгледзець ідэю стварэння гандлёвага цэнтра накшталт існуючых у многіх еўрапейскіх гарадах. Не так даўно такі кангламерат з мноствам крамак быў створаны ў цэнтры Берліна. Гэтыя крамкі можна было б здаваць у арэнду кааператывам, якія ўжо цяпер пачынаюць гандляваць сваімі таварамі на Нямізе.

Усе згаданыя будынкі — не шэдэўры архітэктуры. Але, як мы ведаем, у гэтым свеце ўсё адносна. Калі крочыш па тым жа праспекце Машэрава, позірк слізгае па сумнай, шэрай будыніне гасцініцы «Юбілейная» — аб'екта нашага гонару 60-х гадоў, і доўга не адрываецца ад, здавалася б, нічым не прыкметных у архітэктурных адносінах, камянічак Траецкага прадмесця. Праз свой халодны рацыяналізм новая сталіца Бразіліі замест таго, каб стаць «горадам XXI стагоддзя» (як яе нараклі ў час стварэння), засталася ўсяго толькі ўзорам мадэрнізму 60-х. З той жа прычыны высотныя будынкі на Маршалкоўскай у Варшаве ўсё больш выглядаюць як састарэлыя франты ў параўнанні з заўсёды маладым, дзякуючы сваёй рамантычнасці, Старым мястам. Я асабіста супраць будаўніцтва на Нямізе ўстаноў, нават прапанаванага цэнтра архітэктуры і офісаў творчых саюзаў. Гораду не хапае прагулачнай вуліцы. Ленінскі праспект стаў для гэтага занадта тлумным, а праспект Машэрава аказаўся для гэтага вельмі афіцыйны. Паколькі на Нямізе плануецца арганізаваць аўтамабільны рух на ніжнім узроўні, а верхні — аддаць пад праменады, то трэба падумаць, дзе чалавек мог бы прысесці. Для гэтага не трэба будаваць рэстараны на 200 месцаў. Дастаткова маленькіх кавярань. Але тут трэба забяспечыць культуру абслугоўвання. У горадзе з'явілася шмат столікаў на вуліцы, але я асабіста так ні за адзін з іх не сеў. Заўсёды на іх брудныя шклянкі, нешта разліта, рэшткі страў. Няхай шклянка мінеральнай вады абыдзецца даражэй, але яе павінен прынесці ветлівы афіцыянт на чыстым падносе. Вельмі ўдала маглі б з такой работай справіцца школьнікі ў час летніх канікул альбо студэнты. Заслугоўвае ўвагі і такая тыповая, напрыклад, для Нью-Йорка, з'ява як піяна-бары, г. зн. невялікія кавярні, дзе іграе піяніст-імправізатар, які выконвае і заяўкі наведвальнікаў. Нарэшце, нам трэба ўсвядоміць простую ісціну, што як і ў Парыжы, так і Вене, і іншых еўрапейскіх сталіцах кавярня — гэта месца, дзе можна выпіць кавы, чаю ці мінеральнай вады, а ядуць і заказваюць алкагольныя напіткі ў рэстаранах. Калі і мы ўсвядомім гэту розніцу, то заказ кубка кавы ў нашым кафэ, якія ператварыліся ў звычайныя сталоўкі, не будзе выклікаць, мякка кажучы, здзіўленне афіцыянткі.

Нарэшце, яшчэ аб адной праблеме. Мы спяшаемся ўступіць у эру ўсеагульнай аўтамабілізацыі, не вельмі клапоцячыся аб яе выніках. Цяпер мы ездзім на ўласных машынах у асноўным да сваякоў у вёску, у лес ці на дачу. Але прыйдзе час, што такім чынам мы будзем выбірацца за пакупкамі ці ў тэатр. Таму дзіўна выглядае прапанова арганізаваць стаянку на 45 машын. Трэба пад платныя стаянкі і гаражы аддаць увесь ніжні ўзровень вуліцы, тым больш, што з цягам часу чалавек проста не здолее трываць загазаванасць, што павялічваецца з кожным днём на гэтай вуліцы.

Незадаволенасць большасцю праектаў выстаўкі, аб чым сведчаць запісы ў кнізе водгукаў, падказваюць думку, што перш за ўсё трэба брацца не за архітэктурнае вырашэнне забудовы Нямігі, а за канцэптуальнае. А тут галоўнае слова за жыхарамі горада — такімі ж, як і я, дылетантамі ў архітэктуры, якія хочуць быць гаспадарамі горада, а не маўклівымі сведкамі вынікаў келейных змоў. Такі ўжо час!

**Уладзімір СОЛЬСКІ.**

## *Упершыню ў «ЛіМе»*



**Мікола САЗОНАЎ**

**Мікола Сазонаў нарадзіўся ў вёсцы Дарашэвічы Петрыкаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Закончыў Бабруйскі хімічны тэхнікум. Зараз жыве ў Цюменскай вобласці. Працуе рабочым-будаўніком у будаўніча-мантажным поездзе 619 «Ямалтрансбуда».**

**Сёння штотыднёвік знаёміць чытачоў з яго першымі вершамі.**

# ЯМАЛ

## *Будаўніцтва чыгункі*

Сплываюць на поўдзень калматыя хмары.
І вецер пра сонца ласкавае марыць.
Цягнік пацягнуўся ў напрамку
маскоўскім,
а ты, маё сэрца, застанься ў пасёлку.
Маленькім, палярным пасёлку застанься,
між айсбергаў гордых, заснежаных
трасаў,
між вечнай сталёва-алмазнай мярзлоты,
між гэтых барвовых аблок у сумётах.

Табе, маё сэрца, нікуды не трэба
збягаць ад маўчання чарнільнага неба,
ад мяккага позірку мудрае поўні,
ад песні цягучай, маркотных лістоўніц.

Бо тут — нараджэнне таго, што
успомніш,
што памяць прарэжа хвалюючым
промнем.
І потым, пад старасць, і сам не паверыш,
што крочыў і ты тут — у шэрагу першых.

●

Пурга замахнулася ярасным шротам,
і цьмяна мігцяць ліхтары.
Палярная ноч, пераблытаўшы ноты,
ірве над вагонам драты.

Мы кожны — планета: хто Марс, а хто
Месяц.
Зірніце — Меркурый ляціць.
І ўсім на Зямлі нам знаходзіцца месца,
Мой свет, як цябе не любіць.

Пурга грызанула настылую шыбу —
заслону жыцця, цеплыні —
і смерцю завыла ў халодныя трубы.
Далёка вы, светлыя дні...

Мой верш, ты наіўны, але ж усё роўна
цябе, свет цудоўны, пяю,
цябе, свет зямны, і такі непадобны,
жыццёвую існасць тваю.

●

> Віно маўчыць да той пары,
> пакуль яно закаркавана.
> Японская прымаўка.

Стаіць віно. Запыленая пляшка.
Маўчыць пакуль яно, але стрымацца
цяжка.

Ды вось рука абцерла шкло,
сарвала корак,
і хлынула віно у келіх морам.

Бязладным хорам загуло, загаманіла,
Лавіну спрэчак у сябрыне абудзіла.

## *Радзіма*

З ветрам колас гамоніць аўсяны,
Сонцам яблык зіхціць — паліваны,
параць стомаю коні на лузе,
шоргат шашы пад грузам,
звонка кропля ў даёнку спадае,
маці строга дачушку ўшчувае,
немаўля крыкне ў доме радзільным —
ва ўсім слова іскрыцца —
Радзіма.

## *Ласка*

Жыцця адвечны маскарад!
Калейдаскопам — маскі, маскі...
Шугае барвамі парад,
Няма там толькі
Маскі Ласкі.

Бягу, зрываю маскі Зла,
Надзеі, Гора і Здзіўлення.
А маскі Ласкі ўсё няма.
Крычу, гукаю — цішыня.
Куды, куды яна сышла?
Ды не чутно майго малення.

## *На трасе*

Пра каханых хлопцы ўспаміналі
між ямальскае касмічнае начы.
Словы мяккаю ласкотаю гучалі,
і рабіліся дзяцьмі барадачы.

Тыя хлопцы, што даўбілі лёд кіркою,
слоўцы ў іх —
пургу кідалі ў жар —
засвяціліся цнатлівасцю такою,
быццам іх сагрэў зары пажар.

Дагарэў агонь — канец бяседзе.
І, як рыцары, узяўшы шпагу — лом,
з трасаў на дуэль пайшлі па снезе
за каханых,
за пяшчоту,
і за дом.

●

Яшчэ маленькі ты,
яшчэ табе
бабуля начач шэпча казкі.
Але чаму, без нічыёй падказкі,
адразу ў тваім сэрцы —
чаканне дзіва,
калі ты чуеш словы —
Мама і Радзіма?

●

У бесклапотным светлым юнацтве
свет здаецца такім велізарным;

у закаханым ахвярным юнацтве
свет звужае яшчэ далягляды;

у сталым узросце мы адкрываем
свет наш па сутнасці вельмі маленькі

і праз памылкі выпешчваем мудрасць:
трэба на свеце усім жыць шчасліва.

# З літаратурнай спадчыны

Багатая літаратурная спадчына, якую пакінуў Янка Купала, — неацэнны духоўны набытак не толькі беларускага народа. Нягледзячы на відавочныя поспехі ў справе яе вывучэння, выдання і прапаганды, даводзіцца зноў і зноў канстатаваць, што яшчэ і сёння мы не маем поўнага акадэмічнага збору твораў нашага выдатнага песняра з усімі неабходнымі ў такіх выпадках варыянтамі і тлумачэннямі-каментарыямі. Чаму? Прычын многа, і не апошняе месца сярод іх займае боязь надрукаваць нешта не тое, што можа выклікаць чыюсьці незадаволенасць, а то і гнеў. На сяго-таго ўсё яшчэ аказваюць ледзь не магічны ўплыў ацэнкі, а дакладней, ярлыкі, што даваліся, навешваліся некаторым творам паэта ў сумнай памяці трыццатыя гады, калі паўсюдна вяліся пошукі «памылак» і «ворагаў народа», калі больш верылі паклёпнікам, вульгарызатарам, як сумленным, шчырым людзям. М. Ю. Лермантаў, напрыклад, мог назваць Расію, якую, вядома ж, любіў не менш за «надменных потомков», «известных подлостью прославленных отцов», «наперсников разврата», «палачей» «Свободы, Гения и Славы», што «жадною толпой» стаялі «у трона», «нямытаю» («Прощай, немытая Россия, Страна рабов, страна господ»). Калі ж Янка Купала называў «забраным» сапраўды забраны ў народа рознымі прыгнятальнікамі свой край, дык сёй-той у гэтым гатовы быў бачыць антырускія ці антыпольскія настроі — ці ж гэта не смешна? Не варта, мабыць, тут даказваць, як Янка Купала любіў Расію і Польшчу, рускі і польскі народы, іхнія самабытныя, развітыя культуры, літаратуры, бо быў па сваёй натуры наогул інтэрнацыяналіст. Ненавідзеў жа ён аднолькава сваіх і «чужых» крывасмокаў, «сілы з усходу і захаду мсцівыя», тых, хто падвяргаў беларускі народ сацыяльнаму і нацыянальнаму ўціску, і ўсімі сваімі сіламі ўсё сваё свядомае жыццё змагаўся з імі... Ненавідзеў ён і тых, хто губляў чалавечы гонар, выракаўся дзеля выгод свайго народа і свае мовы, ішоў прыслужваць хай сабе і багатым, але нікчэмным людзям. Будучы паэтам глыбока народным, выразнікам яго духу, ён выказваў на многія падзеі, факты і з'явы народны погляд. І не друкаваць яго творы, хаваць іх ад народа, рабіць выгляд, што іх няма, калі яны ёсць, — гэта абкрадаць сябе, абкрадаць літаратуру. Ды і несумленна, злачынна...

Як паэт Янка Купала быў універсальны. У гэтым лёгка пераканацца, чытаючы нават гэтую невялікую падборку твораў паэта, твораў, якія ні разу не друкаваліся пасля яго смерці.

Барыс САЧАНКА.

**Янка КУПАЛА**

## З мінуўшых дзён

Перайшло, мінула,
Што калісь жыло,
Ў курганах заснула,
Зеллем зарасло.
Пад магіл навалай
Дрэмле Русь, Літва —
За той тая з хвалай
Легла галава.
Не гудзе ў павазе
Голас вечавы,
Не шукаюць князі
Славы і бітвы.
Войска Усяслава
Не ідзе ў паход
На той бой крывавы
За свой край, народ.
Сцены і запоры
Палачан, мянчан
Леглі у разоры
Зморажаных палян.
Ні святых дуброваў,
Зніч пайшоў з вадой;
Загасціў лад новы,
Ды не той, не свой.
Слых адно праходзе
Калі-нікалі
У жывым народзе
На жывой зямлі.
Баіць, гнучы шыі,
Паднявольны люд:
Мы ў сваім чужыя —
Край забраны тут!
Так прайшло, мінула,
Што калісь жыло,
Ў курганох заснула,
Зеллем зарасло.

1909 г.

## «Забраны край»

Я ведаю, знаю старонку такую,
Спавітую ў вечны туман,
Пад цёмнымі зорамі днюе, начуе,
Ляжыць на кургане курган.
Хоць сохі, хоць косы гуляюць там
ройна,—
Не поймеш, адкуль узялісь;
Людзей запытаеш,—адкажуць спакойна:
«Забраны край» гэты калісь.

Сыны зямлі роднай чужыя палеткі
Ў чужую карысць засяюць,
На родных папарах галодныя дзеткі
Чужую жывёлу пасуць...
Кладуцца заломы... Дабро змей
валоча...
Цянюе ля хат ваўкалак...
Нячысцікі, ведзьмы рэй водзяць па ночы,
«Забраны край» тузаюць так.

Сляпы знемагаецца бацька ў цямніцы;
На стражы пастаўлен сынок;
У поўных калісьці ад шчасця святліцах
Чужак зневажае дачок.
Дзяцей сваіх маткі кідаюць у здзеку,
За «мамак» к наездцам ідуць,
А тыя за іх малако, за апеку
«Забраны край» болей гнятуць.

Мальбішчам чужым б'е пакора паклоны;
Упадку вялічыцца сцяг;
З балотам змяшаны старыя законы,
Наладжан нявольнічы шлях.
Купляюць, збываюць, гандлююць
чужынцы
Народным дабром, як сваім...
Заплача ў пагоду канюх па расінцы, —
«Забраны край» жаліцца з ім.

Наведзены струны ў скрыпках па-свойску
Чужая зрывае рука.
Жалейка азвецца з вясны пад
бярозкай, —
Не ўцешыць яна бедака.
Так камень не ляжа, як змора паддання
Лягла ад мяжы да мяжы
З надзеяй, што нават і думку змагання
«Забраны край» вырве з душы.

Жыццё год без ліку на шнурык свой
ніжа,
Без ліку няволя есць сіл...
Аж прадзедаў косці не ўлежаць пад
крыжам,—
Што ночы выходзяць з магіл.
Выходзяць, ідуць ад парогу к парогу;
На стогн жывых грозна глядзяць;
І з ветрамі, з бурамі б'юць на трызогу:
«Забраны край» клічуць устаць.

1911—1912 г.

## Над Нёманам

Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды
Вольнага Нёмана, ў цёмную даль,
Толькі у часе глухой непагоды
З берагу Нёман не выйдзе амаль.
Вербы і вольхі калышуцца глуха,
Сінія хвалі шумяць і бурляць.
Чуткай душою ў такі час паслухай, —
Здасца, там гэтакі голас чуваць:
«Гэй, не дзівуйся, мой дружа нядбалы,
Што я сягоння так злосна шумлю:
Грудзі здавілі мне хмары навалай,
Пошасць уелася ў матку-зямлю.
Сумна мне, сумна, што ўсё тут іначай
Некалі бераг мой бачыў і знаў;
Іншы меў выгляд — не гэткі жабрачы,
Іншы я плыт на плячох сваіх гнаў.
Край, дзе жыццё я сваё пачынаю,
Шмат весялей пры глядаўся на свет,
Песні і казкі інакшыя баіў,
Шчасце цвіло ў ім, як макавы цвет.
Буйным жыццём усё чыста кіпела,
Слава далёка за мора ішла,
Ворага кожны за плечы браў смела,
Цемра чужынцаў не страшнай была.
Панам быў дома і слаўным за домам
Мой патаптаны сягодня народ;
Змог ён не толькі знаць штукі
з заломам, —
Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.
З вольнай дружынаю князь на пасадзе
Вольнаму люду законы пісаў;
Слухалі князя, а князь што
не ўладзіў —
Слухаў, што веча яму звон казаў.
Чую, ах чую цяпер яшчэ ясна
Той неўгамонны, расходзісты звон...
Сціх, занямеў, аглушылі напрасна;
Ці адазвецца калі болей ён?..
Так, так, мой дружа, іначай бывала,—
Не называўся забытым мой край;
«Поўнач» не раз у ім схову шукала,
«Захад» знаў сілу яго неўнарай.
Га, а цяпераka што гаварыці?..
Усе мае скарбы намарна ідуць:
Жыта учора вывозілі віці,
Родныя хвойкі сягоння плывуць.
Людзі чужыя змагаюць мне грудзі
З новым парадкам, з адменным
жыццём, —
Роднага ж краю тутэйшыя людзі
У скуру чужацкую лезуць жыўцом.
Я іх не ваблю сваею ўжо красай:
Вецер іначкшы ім дзьме ў галаве, —
Вісла адным усміхаецца ласа,
Тыя заплюшчыўшысь пруцца к Няве.
Скора сын бацьку, а бацька сыночка
Не распазнаюць адзін аднаго;
Дзеці чужацкія корме ўжо дочка,
Маці працуе на злыдню свайго.
Так грамадзяне свабоднага краю
Ёрмы уздзелі, у рабства пайшлі,
Прадзедаў слава лазой зарастае,
Памяць мінуўшчыны дрэмле ў зямлі.
Рынкам жывога тавару нявслава
Край увесь зрабіла, загнала на ўбой,
Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава
Торг груганову вядуць між сабой.
Га! ты не слухаеш, бачу, ўжо болей.
Ой, чалавеча, змярцвелы у сне!..
Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?..
Камень і вольха перш поймуць мяне!..»

. . . . . . . . . . . . . . .

Гэтакі ў часе глухой непагоды
Чуецца ў Нёмнавай гутарцы жаль.
Сціхне, і плаўна зноў коцяцца воды
Вольнага Нёману ў цёмную даль.

[1911—1912]

## На рынку

— Хадзеце, хадзеце, вясёлыя людзі!
А жыва да нас на таргоўлю:
Пакупка — гасцінчык вам кожнаму будзе
Чырвоненькі, хатняй гадоўлі.

Паціху... не бойцеся — пойдзе ўсё
гладка, —
Крый, Божа, якога прымуса.
Маленькая рэч, — як матыль ці
стрынатка...
Усёй куплі — душа беларуса.

Меў хату, меў поле; — прыйшлі і
і забралі...
Сам вінен: не ўмеў пільнаваці.
Ну, ўсякаму ж трэба як-небудзь жыць
далей, —
Душу вось і можа прадаці...

Падходзь жа, паночку!.. знімі акуляры—
Лепш будзе агледзіць пакупку;
Ты, барынька, так жа падблізься!.. мы
нары
Дамо нават з ёю, галубкай...

Штось срэбнікаў з трыццаць — як піша
ў законе —
Узяў за Хрыста калісь Юда...
Аб гэтай цане ані снім мы сягоння:
Станела ўсё — душы і цуды.

Дасцё крыві з каплю, з гарошынку
чэсці —
І — ваша душа ва ўсёй хвале...
Бо так — не купіўшы — не след
на крыж весці
Гатовы сказаць, што вы ўкралі...

1912 г.

## Чужым

Мы вас прынялі хлебам і соляй,
Людзі чужыя;
Ўстрэлі вас ласкай нашага поля
Кветкі жывыя.
Нашы сасонкі шумнага бору
Далі вам хаты,
Далі загонаў нашых разоры
Гонар багаты.
Пух і аўчынкі нашага хову
Грэлі зімою,
Птушкі вам гралі з нашай дубровы
Гімны вясною.
Ценем тулілі вас у спякоту
Нашы чарэсьні,
Нашыя жнейкі ў жніўну работу
Пелі вам песні.
Вашым патомкам нашыя маткі
Казкі складалі:
Ў сэрцах дзіцячых праўдаў пачаткі
Сеў засявалі.
Верны славянскім спадкам, браточна
Ў госцях вас мелі,
І шанавалі людска, святочна
У будні, ў нядзелі.

. . . . . . . . . . . . . . .

Сотні лет песцім днямі і ночай
Госця на шыі —
Змея, што з пуняў скарбы валоча
Скарбы чужыя.
Вы ўжо забылі, людзі здарэння,
Дзе ваш прыпынак,—
Вывелі ў гандаль славу, сумленне —
Праўду на рынак.
Слепа зракліся сораму, ўвагі,
Ў храмы селі, —
Брацціям жа ўздзелі лапці, сярмягі,
Торбы надзелі...
Людзі чужыя! Хтось калісь зліча
Вашу нам шкоду:
Зліча праступкі... к суду пакліча
Крыўда народу.

18.X.1912 г.

## Тае снег...

Тае снег, таюць сковы зімы ледзяністыя,
Сонца з ласкай ажыўчай гуляе
ў прыволлі,
Хутка жаўранак песняй сваёй
галасістаю
Прывітае аратых на полі.

Узніме чорную скібу саха
працавітая,
Ляжа ўсходнае зерне ў пахань
сырую,
Закалосіцца поле, слязой, потам
злітае,
Зашуміць сваю думу старую.

Гаспадар той суважна свой шнур
па-святочнаму
Абыходзіці будзе, красой любавацца,
Прыслухоўвацца шэлесту нівы
наўрочнаму
І маліцца к сваей зямлі-матцы.

Смела гляне на свет і на
долю змянлівую,

## Прамова на 15-годдзі літаратурнай працы

Дарагія грамадзянкі і грамадзяне зямлі беларускай! Вітаю Вас і дзякую Вам ад усяго сэрца за тую памяць, якую Вы захацелі аказаць у сягоняшні дзень мне і маей пятнаццацігадовай працы на ніве беларускай! Але толькі павінен я тут адзначыць, што гэта пятнаццацігадовая гадаўшчына не да мяне аднаго адносіцца, яна адносіцца да шмат каго з прысутных тут, адносіцца да ўсяго апошніх часаў руху ў беларускім адраджэнні. Усяго пятнаццаць год вялікая ідэя вызвалення з паднявoлля Беларусі лунае і пашыраецца сярод многамільённага беларускага грамадзянства.

Трудны і цярністы шлях прыйшлося прайсці нам, беларусам, за гэты час змагання за лепшую долю, за лепшую славу для свае Бацькаўшчыны!

Але мы змагаліся і будзем змагацца. І наша змаганне не асталося без следу. Мы самі сведкамі таго, што кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты зарунеліся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй, ад якой можна смела чакаць ураджайнага жніва.

Ні адно на свеце адраджэнне народу, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народу.

І сапраўды. Што было пятнаццаць год

**Аднолькавыя прозвішчы аўтара і героя гэтай публікацыі — не супадзенне. Сын піша пра бацьку...**

**Шмат гадоў юрыст з Казані І. Л. Літвінаў вывучае матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю Льва Літвінава — віднага беларускага савецкага рэжысёра, у свой час (1932—1937; 1943—1948 гг.) мастацкага кіраўніка Тэатра імя Янкі Купалы. Як вядома, у розныя перыяды і рознымі даследчыкамі дзейнасць Л. Літвінава ацэньвалася па-рознаму, нават з процілеглых пазіцый.**

**Нататкі, якія «ЛіМ» змяшчае сёння, — спроба разабрацца ў напластаванні думак, поглядаў, а таксама стэрэатыпаў, каб зразумець асобу творцы, усвядоміць яго сапраўдны ўклад у беларускае сцэнічнае мастацтва.**

# Дзве фарбы

Ігар ЛІТВІНАЎ

**«Выдатны рэжысёр»... «Галоўны фармаліст»... Кім жа быў для беларускага тэатра Леў Літвінаў?**

НАЎРАД ці хто-небудзь з мільёна жыхароў Казані звярнуў увагу на маленькую заметку на старонках нумара «Правды» за 30 сакавіка 1980 г. Мяне ж яна незвычайна ўзрушыла. «Тысячны спектакль «Паўлінкі» адбыўся ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, — паведамлялася ў газеце. — Упершыню ён быў пастаўлены... у 1943 г. (Тут, праўда, недакладнасць, у 1944. — І. Л.)... З таго часу кожны новы сезон тэатра пачынаецца абавязксва «Паўлінкай». Яна стала своеасаблівай эмблемай калектыву. Артысты Г. Глебаў, Б. Платонаў, У. Дзядзюшка, Л. Ржэцкая, В. Пола і іншыя надалі спектаклю яркі характар. Змяняюцца выканаўцы роляў, але захоўваецца знойдзены іскрысты стыль спектакля, забяспечваючы яму ўвагу гледачоў».

Хваляванне маё было зразумелае: гэты спектакль паставіў мой бацька — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР і ТатАССР рэжысёр Леў Міхайлавіч Літвінаў, у лёсе якога бліскучая «Паўлінка» адыграла глыбока драматычную ролю. Нават дзень свайго пасмяротнага трыумфу ён сустракаў ананімна — прозвішча яго ў заметцы не згадвалася.

Адправіўшы віншавальную тэлеграму калектыву тэатра (да акцёраў яна, як высветлілася пазней, не дайшла), я вярнуўся да штодзённых спраў, бясконца далёкіх ад гэтай падзеі.

А неўзабаве здарылася так, што мне давялося наведаць Мінск. Тыдзень у горадзе майго дзяцінства і юнацтва, сустрэчы з «Паўлінкай», са старымі тэатральнымі і не тэатральнымі сябрамі і знаёмымі, размова з Л. Г. Рахленкам, гутарка па тэлефоне з В. В. Галінай, адкрыццё новага тэатральнага Мінска — усё гэта ўскалыхнула душу. І трэба ж, каб менавіта ў гэты час я ўбачыў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР выстаўку літаратуры па гісторыі беларускага тэатра. Ці мог я стрымацца, каб не прагледзець усе матэрыялы, якія датычаць творчасці бацькі? Што я там убачыў! Са старонак некаторых кніг на мяне літаральна абрынулася плынь непрыязі і няпраўды, такі вадаспад тэндэнцыйнасці і неаб'ектыўнасці... Многае з гэтага я ведаў і раней, але сабранае разам, ды яшчэ на фоне тысячнага прадстаўлення «Паўлінкі», яно выклікала ашаламляльнае ўражанне.

Дома, у Казані, ліхаманкава перачытваючы свае запісы пра бацьку, праглядваючы дакументы і газетныя выразкі з сямейнага архіва, я паступова ачуньваў. І чым больш уважліва я супастаўляў вядомае мне з прачытаным у Мінску, тым больш ясна адчуваў настойлівую патрэбнасць даць адказ на пытанне: кім жа ўсё-такі быў для беларускага тэатра Леў Літвінаў? Адным з «выдатных беларускіх рэжысёраў»? «Галоўным прадстаўніком фармалістаў у беларускім тэатры»? «Яго роля ў фарміраванні творчага аблічча тэатра, у выхаванні акцёраў вельмі значная»—або «ў творчых прынцыпах сваёй рэжысёрскай работы ён ніколі не адрозніваўся ад буржуазнай рэжысуры»?

ЗА КУЛІСАМІ БДТ-1 я вырас. Вялікага Крыловіча ведаў як «дзядзьку Валодзю», які проста бываў у нас дома. Аб'ектам маёй хлапчуковай любові, а потым, у 1944 г., у Юргу (пад Томскам) і пазней у Мінску — добрым і разумным дарадчыкам і настаўнікам быў Барыс Віктаравіч Платонаў. Томск і асабліва Нарым (у час паездкі тэатра па Абі ў 1943 г.) зблізілі мяне — юнака, які марыў пра тэатр —з У. І. Уладамірскім і Е. А. Міровічам. Працяглыя гутаркі з блізкімі сябрамі бацькі В. В. Галінай і С. С. Бірылам у пасляваенным Мінску былі для мяне экскурсіямі ў мінулае купалаўскага тэатра. Гадзінамі я слухаў яркія ўспаміны Г. Ю. Грыгоніса. Зашыўшыся ў куток, я правёў на рэпетыцыях бацькі дзесяткі гадзін і памногу разоў бачыў кожны спектакль тых гадоў. Натуральна, што з дзяцінства я не ўяўляў сябе па-за сцэнай, з першых класаў школы іграў у драмгуртках, а пазней упарта рыхтаваўся да працы ў тэатры. І хоць маё прафесійнае жыццё пайшло па шляху, далёкім ад сцэны, але тэатр застаўся для мяне адным з галоўных жыццёвых захапленняў.

Не дзіўна, што спектаклі, тэатральная прэса і тэатразнаўчыя работы заўсёды былі аб'ектам маёй пільнай увагі, глыбокай цікавасці, а часам і сур'ёзнага вывучэння. Асаблівае месца ў маіх «росшуках» займае ўсё, што тычыцца творчасці бацькі. Тым больш, што шлях яго ў тэатры быў такім жа яркім, як і няпростым. Пачаўшы дваццацігадовым юнаком з кіраўніцтва ў 1919 г. аматарскім калектывам, ён робіцца відным арганізатарам тэатральнай самадзейнасці Мінска 20-ых гадоў, а потым студыйцам пры МХАТ-ІІ. У 28 гадоў ставіць свой першы прафесійны спектакль, які атрымаў саюзнае прызнанне, у 33 гады ўзначальвае мастацкае кіраўніцтва вядучага тэатра Беларусі і, зрабіўшы за 6 гадоў шэраг бліскучых, удалых, спрэчных і няўдалых спектакляў, пакідае ў 1938 г. БДТ-1 з кляймом «фармаліста». Пасля некалькіх гадоў плённай працы ў тэатрах БССР і УССР вяртаецца ў 1943 г. у БДТ-1 галоўным рэжысёрам, ставіць там новыя спектаклі, у тым ліку і тыя, што ўвайшлі ў залаты фонд беларускага тэатральнага мастацтва.

У канцы 40-х гадоў падвяргаецца самай жорсткай разгромнай крытыцы на старонках беларускага тэатральнага друку, у выніку чаго вымушаны ў 1950 г. у другі раз пакінуць Беларусь. Далейшае сваё жыццё ён звязаў з Казанскім рускім драматычным тэатрам імя В. І. Качалава, дзе 13 гадоў паспяхова і прадукцыйна працаваў да апошняга дня (памёр 21 сакавіка 1963 г.).

З 1946 г., калі ўзрост, падрыхтоўка і шэраг іншых абставін дазволілі мне досыць аб'ектыўна і крытычна ўспрымаць з'явы тэатральнага і калятэатральнага жыцця Мінска, мяне не пакідала пачуццё здзіўлення перад адной асаблівасцю творчага шляху бацькі ў купалаўскім тэатры: дзіўнай неадпаведнасцю паміж мастацкім узроўнем яго спектакляў і пануючай ацэнкай яго творчасці на абмеркаваннях, старонках тэатральнага друку, а пазней — у тэатразнаўчых працах. Спектаклі бацькі былі розныя: ад шэдэўра «Паўлінкі» да прахадной ардынарнай п'есы «Чужы цень». Але амаль усе яны ў канчатковым выніку ацэньваліся адмоўна або разгромна. Калі і з'яўляўся станоўчы водгук, то рана ці позна ён абвяшчаўся памылкай ці проста ігнараваўся. Асаблівы гнеў беларускай крытыкі выклікала «Паўлінка» — тут абвінавачванні ўздымаліся да ўзроўню палітычных.

Не абмяжоўваючыся разносам канкрэтных спектакляў, найбольш зацятыя крытыкі «развенчвалі» творчае крэда бацькі, «ускрывалі заганнасць» яго ідэйна-мастацкай канцэпцыі. Доказаў не патрабавалася — любыя выдумкі, любое глупства ўспрымалася як належнае. Кульмінацыяй быў допіс А. Есакова (некалі загадчыка тэатральнага аддзела «ЛіМа»), у якім усё творчае жыццё бацькі паказвалася як суцэльная мастацка-ідэалагічная дыверсія супраць савецкага тэатра. Самым мяккім выразам у тым артыкуле было «нахабна хлусіць». Толькі праз 20 гадоў, калі я змог пазнаёміцца з «выкрывальніцкімі» артыкуламі Есакова 1936—37 гг. пра У. Галубка і іншых, мне ўдалося высветліць, на якім матэрыяле фарміраваўся і адточваўся гэты «прыгожы стыль». Тым не менш гэты допіс быў «ідэйнай базай» разгромнай заявы, зробленай першым сакратаром ЦК Д. Гусаравым на XIX з'ездзе КП(б)Б, аб «групе тэатральных крытыкаў, што стаяла на пазіцыях фармалізму і касмапалітызму, сустракала ў штыкі савецкія патрыятычныя п'есы, супрацьдзейнічала іх пастаноўцы ў тэатрах, усхваляла фармалістычнае трукацтва ворага савецкага рэалістычнага мастацтва Меерхольда, прыніжала дасягненні рускага рэалістычнага мастацтва», на чале якой чамусьці быў пастаўлены рэжысёр Літвінаў.

Уся гэтая вакханалія ў тэатральным друку настолькі абуральна перакручвала добра вядомыя асабіста мне (ды і не мне аднаму) факты, была настолькі абсурдная з чыста лагічнага пункту гледжання, што здавалася немагчымай, калі б не адбывалася на маіх вачах.

Праводзіць творчую работу ў гэтых абставінах было проста немагчыма. І я з пачуццём глыбокай павагі глядзеў, як бацька цудам знаходзіў у сабе сілы для стварэння іскрыстай «Дуэньі», пяшчотнага трапяткога спектакля «Таленты і паклоннікі» і іншых сцэнічных твораў. Праз шмат гадоў я прачытаў бацькавы лісты таго часу; ён пісаў: «У абстаноўцы, якая існавала, больш немагчыма жыць і працаваць», «Я ў адчаі, я губляю сілы ў гэтай невыноснай атмасферы злосці». Міжволі думаецца пра тое, колькі няствораных «Паўлінак», «Рамэа і Джульет» недалічыўся беларускі тэатр у выніку гэтых падзей.

Характэрна, што ў Казані бацька адразу ж як бы перанёсся ў іншы свет—усе жудасныя абвінавачванні, уся разбэшчаная лаянка засталіся ў мінулым як страшны сон. Аднавілася нармальная творчая праца, аб'ектыўна прынятая калектывам, крытыкай і гледачамі. Шэраг спектакляў атрымаў высокую ацэнку — у тым ліку і на старонках сталічных газет. Менш удалыя спектаклі выклікалі крытычныя заўвагі, якія мелі дзелавы і добразычлівы характар. Творчая значнасць Літвінава-рэжысёра, прагрэсіўнасць яго ідэйна-мастацкай канцэпцыі не выклікалі сумнення; ён зноў быў буйным майстрам сцэны, які пакінуў значны след у адным з вядучых перыферыйных тэатраў Расіі.

У далёкай Казані наша сям'я захоўвала трывалыя сувязі з тэатральным Мінскам: бацька перапісваўся з сябрамі (у ліку іх былі Уладамірскі, Бірыла і многія іншыя), мы рэгулярна атрымлівалі найбольш значныя артыкулы і кнігі, былі ў курсе не толькі жыцця сучаснага беларускага тэатра, але і жыва цікавіліся асвятленнем яго гісторыі. (Трэба сказаць, што я цяпер цікаўлюся грамадскім і культурным жыццём Беларусі, імкнуся не прапусціць ніводнай значнай публікацыі ў рэспубліканскім друку, сачу за публікацыямі «спецыяльнай» перыёдыкі — «ЛіМа», «Мастацтва Беларусі»). Апошнім, калі можна так сказаць, «падарункам» бацькі беларускаму тэатру была рэкамендацыя на купалаўскую сцэну казанскага артыста П. Кармуніна, цяпер народнага артыста БССР.

МІНУЛА сярэдзіна 50-х гадоў. Здавалася, што пасля XX з'езда КПСС павінна адысці ў мінулае і ўсё неаб'ектыўнае, тэндэнцыйнае ў тэатральнай крытыцы. Падзеі падмацоўвалі гэтае спадзяванне: пачала мяняцца да лепшага творчая атмасфера ў савецкім тэатры, з'явіліся аб'ектыўныя працы аб творчасці У. Меерхольда, А. Курбаса, А. Ахметэлі. Адбыліся змены і ў беларускім тэатразнаўстве: зняты быў «фармалізм» «Мешчаніна ў шляхецтве» і «нацыяналізм» шэрагу пастановак 20-ых гг., больш памяркоўнай стала ацэнка ранняй рэжысуры М. Міцкевіча. І толькі ў адносінах да Літвінава цвёрда захоўвалася лінія, створаная ў 40-я гады; ён заставаўся самай адыёзнай, па сутнасці адзінай адыёзнай фігурай у гісторыі беларускага тэатра. Кнігі канца 50-х гг. найранейшаму аднадушна жывапісалі яго як закаранелага фармаліста і разбуральніка традыцый беларускага тэатра.

Такое, досыць дзіўнае, на першы погляд, становішча, думаецца, у многім тлумачыцца некаторымі асаблівасцямі беларускага тэатразнаўства. Сталася так, што яно ўзнікла і вырасла пад кіраўніцтвам адной асобы — доктара мастацтвазнаўства, члена-карэспандэнта АН БССР У. І. Няфёда. Утварылася свайго роду манаполія — пераважная большасць работ па гісторыі беларускай сцэны напісана строга ў рамках пэўнай канцэпцыі, пададзена ў жорстка зафіксаваным варыянце.

Называючы рэчы сваімі імёнамі, трэба сказаць, што менавіта У. Няфёд быў у рэспубліцы адным з лідэраў кампаніі канца 40-х гадоў, распачатай на ўсесаюзным узроўні вядомым артыкулам «Аб адной антыпартыйнай групе тэатральных крытыкаў». Вось, да прыкладу, узоры палемікі з тагачасных работ, артыкулаў і выступленняў вядучага тэатразнаўца рэспублікі, скіраваных супраць Літвінава:

«...дзейнасць Л. Літвінава, які ад захаплення дэкадэнцтвам, містыцызмам, футурызмам, ад паклёпу на лепшы рускі тэатр МХАТ дайшоў да ваяўнічага фармалізму, праявы меерхольдаўшчыны, да здзеку над рэалістычным напрамкам дзейнасці тэатра, да таго, каб перашкаджаць руху на сцэну тэатра лепшых сучасных п'ес рускіх і беларускіх драматургаў»; «...неаспрэчны закон партыйнага савецкага мастацтва не з'яўляецца яшчэ асноўным фактам многіх спектакляў і вобразаў, створаных рэжысёрам Л. Літвінавым»; «...рэжысёрская трактоўка п'есы «Паўлінка» супадае з контррэвалюцыйнай трактоўкай гэтай п'есы беларускім буржуазным нацыяналістам Ф. Аляхновічам»; «Нізкаякасны, апалітычны спектакль «Чужы цень», двурушніцтва фармаліста Літвінава, грубы заціск крытыкі — усё гэта з'явы аднаго парадку. Выклікаaccount яны стратай пачуцця прынцыповасці і адказнасці ў некаторых членаў калектыва тэатра... і абыякавым стаўленнем да лёсу вядучага тэатра рэспублікі з боку Упраўлення па справах мастацтваў пры Савеце Міністраў БССР». Ці трэба каменціраваць шматзначную інтанацыю заключнай фразы, якая ў тыя складаныя часы гучала досыць важка (ды яшчэ ў такім салідным органе, як «Советское искусство»)? Гэта і прымусіла Літвінава неўзабаве пакінуць беларускую сцэну.

Магчыма, чытач заўважыць у гэтых нататках толькі асабістыя матывы. Так, я імкнуся абараніць добрае імя бацькі ад несправядлівай зняважы, дзеля чаго, на маю думку, трэба аднавіць аб'ектыўную гістарычную ісціну. Няхай даруецца мне пэўная «красивость», але маё сэрца некалі літаральна працялі словы бацькі, напісаныя ім у горкім 1949-м (я знайшоў іх, разбіраючы паперы, што засталіся пасля яго): «Хочацца бачыць у гісторыі асноўнае — партыйную сумленнасць і праўдзівасць, дакладнасць і глыбокую думку, якая асвятляе мінулае для будучыні. Гэтага хочаш у агульнай карціне развіцця нашай тэатральнай культуры. І для сябе асабіста, калі ты фігуруеш у гісторыі. Усё маё жыццё прайшло ў беларускім тэатральным будаўніцтве, і мяне, вядома, трывожыць, якім я прадстаўлены ў гісторыі. Хо-

чацца, каб і пры жыцці і пасля яго, студэнт, адказваючы на пытанне пра рэжысуру беларускіх тэатраў, сказаў некалькі цёплых слоў і пра мяне, хто ўклаў ужо 30 гадоў напружанага працоўнага жыцця ў беларускі тэатр і сёе-тое карыснае зрабіў нават па цяперашнім рахунку гісторыкаў — рахунку, які ў многім не адпавядае праўдзе жыцця і часта нядобразычлівы».

І, ведаеце, з цягам часу асабістыя матывы адступілі на другі план, усё мацней гучаў для мяне пачатак прыведзенай цытаты. Я ўсё больш задумваўся над такімі вось пытаннямі: ці выйграла беларуская сцэна, страціўшы Літвінава на вяршыні яго творчага росквіту, ці выйграла гісторыя беларускага тэатра, ператварыўшы такога рэжысёра ў прымітыўнага «фармаліста» з дробязнымі зламыснымі памкненнямі, а этапныя спектаклі (напрыклад, «Бацькаўшчына») — у недасканалыя творы?

Яшчэ адно пытанне тычылася крытэрыя аб'ектыўнасці тэатразнаўства, гісторыі тэатра. Пытанне, вядома, старое, як свет, і ў той жа час вечнае, новае: як жа стала магчыма ў салідных гісторыка-тэатразнаўчых працах сур'ёзных аўтараў грубае скажэнне аб'ектыўных фактаў, тэндэнцыйнае іх тлумачэнне, парушэнне элементарных норм навуковай «талерантнасці»?

ПА АДКАЗ я звярнуўся таксама і да старонак «Гісторыі беларускага тэатра». Значэнне для беларускага і савецкага тэатразнаўства гэтай трохтомнай навуковай працы, нядаўна завершанай Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, цяжка перабольшыць. Ніколі яшчэ шлях, пройдзены тэатральным мастацтвам Беларусі, не асвятляўся з такой паўнатой. Гэта выданне, сабраўшы ўсё зробленае ў беларускім тэатразнаўстве да цяперашняга часу, павінна стаць базай для далейшага развіцця не толькі навукі пра тэатр, але, у пэўнай меры, і тэатральнай практыкі. Бо мінулае, як вядома, настаўнік цяперашняга.

І тым больш прыкра, што — побач з шэрагам вартасцей — у гэтай акадэмічнай працы выразна праяўляецца даволі небяспечная тэндэнцыя, якая склалася ў беларускім тэатразнаўстве за апошнія 30 гадоў, а менавіта — архаічна-дагматычны падыход да асвятлення некаторых перыядаў гісторыі беларускай сцэны і ненавуковыя метады выкарыстання шэрагу гістарычных матэрыялаў.

Разгорнем, да прыкладу, другі том «Гісторыі...» на старонках, дзе аналізуецца тэатральная крытыка 30-х гг. З напісанага тут вынікае, што на фоне ў цэлым памяркоўнай, разважлівай накіраванасці тагачаснай тэатральна-крытычнай думкі вылучаецца толькі адзін аб'ект поўнага і ўсебаковага непрыняцця — творчы метад Літвінава, які крытыка нібыта аднадушна (у асобе сваіх вядучых прадстаўнікоў — Б. Мікуліча, А. Звонака, Я. Рамановіча і В. Вольскага) адмаўляла як знешні, фармалістычны, знеiважальны для традыцый БДТ-1. Для тэарэтычнага падмацавання сваіх высноў сучасныя даследчыкі спасылаюцца на 4 том «Гісторыі савецкага драматычнага тэатра», дзе гаворыцца пра шырокае распаўсюджанне ў перыферыйным савецкім тэатры 30-х гг. «меерхольдаўшчыны», г. зн. «эпігонскага, нятворчага, некрытычнага» следавання знешнім прыёмам У. Меерхольда. Працытаваны тэкст падводзіць чытача да думкі, што метад Літвінава быў менавіта такі. Адпаведна і ўвесь матэрыял раздзела падзяляецца на дзве часткі: абсалютна і цалкам негатыўную — звязаную з імем Літвінава, і гэтак жа абсалютна і цалкам пазітыўную (за выключэннем 2—3 дробных і невыразных рэплік) — усё астатняе. Раздзел, такім чынам, напісаны дзвюма фарбамі — чорнай і ружовай.

Як растлумачыць гэтую — дзіўнаватую для 80-х гг. — манеру гістарычнага даследавання? Якая яе метадычная база?

Мяркую, што ў аснове такога падыходу ляжыць прынцыповая памылка: правільна ўказаўшы на прагрэсіўны характар барацьбы з фармалізмам у савецкім тэатры ў сярэдзіне 30-х гг. і справядліва характарызуючы пэўную станоўчую ролю ў гэтым плане вядомых артыкулаў «Праўды» 1936 года, стваральнікі «Гісторыі...», як ні дзіўна, выпусцілі з-пад увагі агульнавядомыя факты пра цэлы шэраг істотных парушэнняў у ходзе ажыццяўлення гэтай устаноўкі. Пры ўважлівым чытанні таго ж 4 тома «Гісторыі савецкага драматычнага тэатра» няцяжка знайсці там, апроч згаданых, наступныя радкі: «...Паўсюдна правільныя агульныя палажэнні, якія выстаўляліся ў барацьбе супраць фармалізму і натуралізму, адвольна пераносіліся на канкрэтныя творы мастацтва»; «Багацце і разнастайнасць мастацкай формы пры ідэйным адзінстве — адно з самых вялікіх дасягненняў тэатра сацыялістычнага рэалізму — аказалася пад пагрозай»; «Прыкладам рабілася толькі тое, што звязана са знешняй праўдай адлюстравання жыцця, з той бытавой павярхоўнай «праўдзенкай», якая часамператваралася ў штамп самога МХАТа».

Нават водгулля гэтага ў «Гісторыі беларускага тэатра» няма! Наадварот, калі верыць аўтарам, то ў беларускім тэатры 30-х гг. адзінай перашкодай на шляху станаўлення сацыялістычнага рэалізму былі «фармалізм» і «меерхольдаўшчына» Літвінава, з чым аднадушна і рэзка (але, як адзначаецца, без усялякіх «перагібаў» і зусім не «аглабельна») змагалася крытыка. Па-за Літвінавым, такім чынам, якіх-небудзь сур'ёзных праблем і негатыўных з'яў у беларускім тэатры не адзначалася.

Ці трэба абвяргаць гэтую ідылічную карціну? Беларускі тэатральны друк тых гадоў, насычаны самай што ні ёсць «аглабельнай» крытыкай, што даходзіла да найцяжкіх палітычных абвінавачванняў на адрас відных дзеячаў беларускага тэатра (У. Галубка, К. Саннікава і інш.), красамоўна адказвае на гэтае пытанне. Пра гэта ж сведчыць і артыкул у часопісе «Театр» (1938, № 6), дзе сказана: «Барацьба з фармалізмам прыняла ў Мінску характар барацьбы з тэатральнасцю ўвогуле. Усё, што насіла на сабе адбітак тэатральнага вынаходніцтва, адыходу ад асаблівага бытавізму і натуралізму, выганялася з найвялікшай злосцю». Думаецца, з'яўленне гэтых радкоў у 1938 г., калі «барацьба з фармалізмам» заставалася ў цэнтры тэатральнай крытыкі, сведчыць пра многае. Ці ж даравальна для сучасных гісторыкаў падаваць справу так, што ніякіх памылак, крайнасцей, перагібаў у барацьбе з фармалізмам, а таксама ніякай нівеліроўкі, збядненя выяўленчых сродкаў у Беларусі не было.

НА ЖАЛЬ, шмат якія матэрыялы тэатральнай крытыкі 1938—1940 гг. разглядаюцца на старонках «Гісторыі...» без якога б там ні было гістарычнага іх аналізу. Няправільны ўвогуле, такі падыход абсалютна недапушчальны ў дачыненні да тых гадоў. Вядома, «меерхольдаўшчына» ў той час яшчэ давала аб сабе знаць, у тым ліку і ў Беларусі (дастаткова прыгадаць «Справу гонару» ў БДТ-1), але спроба звесці ўсю тагачасную сітуацыю ў савецкім тэатры наогул і ў беларускім у прыватнасці да разгрому «меерхольдаўшчыны» — грубая гісторыка-тэатразнаўчая памылка. Як вядома, у 1935—38 гг. «грамілі» далёка не толькі эпігонаў Меерхольда... Тады ж на Беларусі быў разгромлены БДТ-III, тэатр Галубка. З гэтай прычыны простае выкарыстанне ў гістарычных працах тэатральна-крытычных матэрыялаў перыяду, які разглядаецца, патрабуе асаблівай асцярожнасці і стараннага ўліку даволі складанага становішча ў савецкім тэатры. Паказаць, як канкрэтна ў Беларусі адбывалася развіццё тэатра, паказаць не толькі велізарныя і відавочныя дасягненні, але і бясспрэчныя страты тых гадоў, паказаць, што памылкі хоць і абцяжарылі творчае развіццё беларускага тэатра, але не перашкодзілі стварэнню высокамастацкіх твораў, — такая задача стаіць перад сур'ёзным гісторыкам.

З улікам гэтых абставін і трэба разглядаць плынь самых рэзкіх абвінавачванняў Літвінава ў фармалізме; абвінавачванняў, якія літаральна запаланілі тады старонкі тэатральнага друку і гучалі ў так званай «Дыскусіі пра фармалізм» 1936 г. Неабходна нагадаць, што да гэтага часу М. Міцкевіч, у чыёй пастановачнай практыцы сустракаліся прыёмы «левага» тэатра, апынуўся ўжо за межамі рэспублікі, і Літвінаў быў у Беларусі адзіны, хто, побач з псіхалагічнымі «Бацькаўшчынай» і «Канцом дружбы», меў на сваім творчым рахунку такі «неартадаксальны» спектакль, як «Жакерыя». Вось чаму асноўны ўдар не мог не абрынуцца на Літвінава: ён быў аб'яўлены «фармалістам», і гэтая бірачка, дзякуючы працам У. Няфёда, захавалася на яго творчасці ажно да пачатку 60-х гг. Толькі ў 1965 г., калі архаічнасць гэтай пазіцыі стала непераноснай (напрыклад, у кнізе 1959 г. «Беларускі тэатр» Літвінаў названы «галоўным прадстаўніком фармалістаў... у беларускім тэатры»), лідэр беларускага тэатразнаўства адмовіўся ад самога тэрміна, — захаваўшы некранутай сваю антыгістарычную і антынавуковую «канцэпцыю» творчасці Літвінава, пабудаваную на матэрыялах 1935—40-х гг., якая, на жаль, трапіла і на старонкі «Гісторыі...»

Са сказанага зусім не вынікае, што ўся крытыка 30-х гг. на адрас Літвінава была плёнам «перагібаў». Бясспрэчна, у ёй былі і праўдзівыя палажэнні, якія слушна раскрывалі пэўныя супярэчнасці творчага метаду рэжысёра, яго творчыя і тактычныя памылкі і няўдачы (тым больш, што некаторыя яго спектаклі тых гадоў, напрыклад, «Сімфонія гневу» ніяк нельга лічыць дасягненнем). Але агульнае гучанне вызначылі менавіта нядобразычлівыя выпады, «завастрэнні», накшталт—«лявацкае трукацтва», «фармалістычныя вывeрты», «скажэнні ідэйнай сутнасці п'ес».

Разам з тым, дзіўна, што «галоўным абвінаваўцам» Літвінава на старонках «Гісторыі...» выступае адзін з вядучых беларускіх крытыкаў першай палавіны 30-х гг. Барыс Мікуліч. На самай жа справе Мікуліч быў гарачым прыхільнікам Літвінава. Шэраг найбольш важных яго артыкулаў прысвечаны спектаклям новага мастацкага кіраўніка БДТ-1, і ўсе яны нязменна змяшчалі станоўчыя водгукі пра гэтыя творы: «... пастаноўка «Бацькаўшчыны» — з'ява буйная, этап у рабоце БДТ-1, этап ва ўсім тэатральным мастацтве БССР...» («Чырвоная Беларусь», 1933, № 1); «Недаростка» Мікуліч лічыў «безумоўным дасягненнем тэатра» («Чырвоная змена». 1934, № 24); быў ён і ў ліку самых гарачых прыхільнікаў «Жакерыі», у якой бачыў «яркі рамантыка - гераічны спектакль... станоўчы факт нашага тэамастацтва, дасягненне БДТ-1, поспех буйнейшага савецкага рэжысёра БССР Л. М. Літвінава» («Чырвоная змена», 1934, № 80). Мікуліч таксама сцвярджаў, што «Жакерыя» і «Вальпонe» «па адзінадушным прызнанні нашай тэакрытыкі ёсць работы этапныя, ёсць поспех», і энергічна падтрымліваў пераробку Літвінавым п'есы Мерымэ («ЛіМ», 12 мая 1934); «Канец дружбы» — «у сэнсе рэжысёрскай работы і акцёрскага майстэрства — удача БДТ-1» («ЛіМ», 8 чэрвеня 1934); ёсць добрыя словы пра рэжысёра і ў рэцэнзіі на «Як яе завуць» («ЛіМ», 28 сакавіка 1936).

Першае і адзінае крытычнае выказванне Мікуліча пра Літвінава з'яўляецца ў яго артыкуле пра «Сімфонію гневу» («ЛіМ», 10 красавіка 1935). Не хачу сказаць, што тут ён памыляўся ў шэрагу сваіх прынцыповых крытычных палажэнняў — гэты спектакль, як я ўжо пісаў, не быў творчай удачай рэжысёра (хоць, насуперак Мікулічу, ніякіх адносін да героіка-рамантычнага стылю не меў). Але гэтак жа відавочныя ў гэтым артыкуле сляды часу (ён напісаны ў 1935 г.), у прыватнасці — поўнае непрыняцце яшчэ год назад горача прарэкламаванага самім Мікулічам «відовішчнага», «плакатнага» тэатра, рэзкае адмаўленне ім якой бы там ні было «левізны» («экспрэсіянізму і імпрэсіянізму»).

Калі ж гэты, у многім абумоўлены часам і, паўтараю, адзіны адмоўны артыкул Мікуліча пра адзін спектакль Літвінава падаецца як сутнасць, ядро ўспрымання гэтым крытыкам усёй творчасці гэтага рэжысёра пры поўным замоўчванні 7 хвалебных артыкулаў з нагоды ўсіх яго важнейшых спектакляў першай палавіны 30-х гг., — гэта нараджае пэўны роздум. Роздум гэты паглыбляецца, калі выяўляеш, што такі ж рэзкі абагульняючы артыкул Мікуліча, які крытыкуе творчы метад Міровіча пачатку 30-х гг. («ЛіМ», 10 лютага 1933), у «Гісторыю...» чамусьці так і не трапіў.

Так абстаяць у «Гісторыі...» справы з матэрыяламі друку пра Літвінава: усе станоўчыя сведчанні дзіўным чынам знікаюць, усе адмоўныя — падрабязна асвятляюцца.

Гэтая лінія прадаўжаецца і ў выкладанні «Дыскусіі пра «Жакерыю» 1934 г. Чытаем: «...спектакль «Жакерыя» выклікаў... гарачыя спрэчкі як у самім калектыве БДТ-1, так і сярод тэатральнай грамадскасці Мінска. Многія акцёры і гледачы не пагаджаліся з адвольнай перапрацоўкай Л. Літвінавым тэксту п'есы, а таксама з яго рэжысёрскім метадам». Нават пры такой манеры выкладання («зала была напалову пустая») відавочна, што, калі хутка не пагаджаліся «многія», ясна, што «многія» ж займалі супрацьлеглую пазіцыю, г. зн. з пераробкамі і метадам пагаджаліся (нагадаю, што адным з гэтых «многіх» быў Мікуліч). Але далей нечакана ідзе: «Не зважаючы на слушную крытыку...»

Звярніце ўвагу, ці ж не падмена гэта: толькі што з «Жакерыяй» не пагаджалася толькі частка акцёраў і гледачоў («многія»), —і вось ужо засталіся адны толькі гэтыя самыя «нязгодныя», менавіта іх крытыка на адрас «Жакерыі» стала называцца «слушнай», а думка астатніх «многіх» (якія «за» —ужо, значыць, не слушная (прычым без усялякіх доказаў: «не слушная» — і ўсё тут). А крыху далей аказваецца, што «многіх згодных» і зусім няма — толькі азваўся М. Модэль, які ішоў супраць плыні (не звяртаючы ўвагі на «слушную крытыку»). А паколькі так, то прызнанне Модэлем рэжысёрскага метаду Літвінава і пераробкі ім п'есы можна растлумачыць «суб'ектыўным падыходам».

Што ж атрымліваецца? Адмаўленне «многімі» «Жакерыі» сведчыць аб іх аб'ектыўным падыходзе, прызнанне ж яе Модэлем разам з ішымі «многімі» сведчыць пра яго (і толькі яго) суб'ектыўны падыход...

Можна толькі гадаць, чаму менавіта гэтыя выказванні адыёзнага Модэля, даволі стандартныя для свайго часу, якія гавораць зусім не пра «суб'ектыўны падыход», а, хутчэй, пра пэўную інерцыйнасць, «стаднасць» мыслення, — выклікалі асуджэнне аўтараў, і якраз такія ж (а часам і больш рэзкія) выказванні Некрашэвіча, Рамановіча, Мікуліча, Вольскага, Гурскага — пакінуты імі без увагі. Гэтак жа няпроста зразумець, чаму менавіта Модэль зроблены адзіным абаронцам Літвінава, а Мікуліч — галоўным яго выкрывальнікам. З роўным поспехам можна, пры вядомым старанчі, памяняць іх ролямі!

Вядома, далёка не ўсё з палемічных і супярэчлівых выказванняў крытыкі 30-х гг. абгрунтавана з сённяшняга пункту гледжання. Але хто, як не гісторыкі, павінны даць гэтым фактам сучасную інтэрпрэтацыю, выявіць іх сапраўднае месца ў гістроыі беларускага тэатра і крытыкі.

Як і ў іншых рэспубліках, творчая сітуацыя ў беларускім тэатры 20 — пачатку 30-х гг. была дастаткова складаная. Гэта відаць хоць бы з таго, што, насуперак аблегчанаму паказу ў «Гісторыі...» манапаліі псіхалагічнага напрамку Міровіча ў БДТ-1, у газетах таго часу пераважаюць «антыпсіхалагічныя» заявы відных тэатральных дзеячаў, дзе, напрыклад, МХАТ называецца «тэатрам старой дваранскай буржуазнай культуры», у мастацкую форму якога «наўрад ці ўдасца каму-небудзь уціснуць сучасны змест», гаворыцца таксама пра неабходнасць барацьбы з «ідэалістычнай сістэмай Станіслаўскага» і г. д. Увогуле ідылічнае выкладанне крытычных і тэатразнаўчых матэрыялаў 20—30-х гг. такое ж далёкае ад гістарычнай праўды, як і ачарненне ў характарыстыцы творчасці Літвінава. Гісторыя, вядома, мае шматфарбную палітру. І карыстацца толькі ружовым ці толькі чорным колерам — значыць збядняць жывы і няспынны працэс развіцця мастацтва.

г. Казань.

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Міколу Капыловічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БАЦЬКІ.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру Дамашэвічу з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці МАЦІ.**

## З пошты «ЛіМа»

# ● З прычыны адсутнасці віны...

# ● Рыба прасіла ратунку

# ● Нацыянальная сімволіка: забараняць ці абмяркоўваць?

●

Паважаны таварыш рэдактар!

На маё запытанне ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР адносна лёсу рэпрэсіраваных у 30—40-ыя гады беларускіх літаратараў нядаўна стала вядома, што ў 1988 годзе спынены з прычыны адсутнасці складу злачынства крымінальныя справы ў адносінах Сцяпана Некрашэвіча, Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка, Аркадзя Смоліча, Уладзіміра Чаржынскага.

У адносінах Алеся Гарадні-Функа ў Вярхоўны Суд БССР унесены пратэст на прадмет яго рэабілітацыі. У Пракуратуру Саюза ССР накіравана прадстаўленне аб прынясенні пратэсту ў Вярхоўны Суд СССР аб спыненні крымінальнай справы і рэабілітацыі Саламона Левіна.

Раней, у 50—70-ыя гады былі рэабілітаваны: Сяргей Астрэйка, Мікола Аляхновіч, Міхась Багун, Мікола Байкоў, Клім Грыневіч, Ігнат Дварчанін, Хацкель Дунец, Антон Крыніца-Ждановіч, Антон Згіроўскі, Мікола Каспяровіч, Сяргей Клопаў-Знаёмы, Уладзімір Кавальскі, Сямён Куніцкі, Аляксандр Ляжневіч, Аркадзь Мардвілка, Іосіф Плашчынскі, Абрам Розна, Янка Туміловіч, Рыгор Хацкевіч, Макар Шалай, Андрэй Шашалевіч.

У архівах праваахоўных органаў рэспублікі адсутнічаюць звесткі пра судзімасць і лёс Францішка Аляхновіча, Рыгора Бахты, Аляксандра Вазілы, Аляксандра Шлюбскага, Франука Грышкевіча, Данілы Васілеўскага, Макара Краўцова, Змітрака Курдзіна, Антона Луцкевіча, Б. Люгоўскага, Язэпа Мазуркевіча, Сяргея Мурзо, Уладзіміра Самойла-Суліма, Апанаса Сідарэнкі, Янкі Субача, А. Траецкага, Пятра Хатулёва і Кастуся Шавеля.

У адносінах да групы апошніх хачу звярнуцца да чытачоў «Літаратуры і мастацтва» з просьбай: калі хто ведае пра лёс ці судзімасць указаных літаратараў, прыслаць свае сведчанні ў рэдакцыю газеты.

**Васіль БЫКАЎ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета БССР.**

●

Часам здараецца, што пэўныя мясціны, хоць з імі па сутнасці нічога значнага не звязана, застаюцца ў памяці надоўга. Такой мясцінай стала для мяне Браслаўшчына. Мой харошы сябра, малады жывапісец Васіль Хмялеўскі амаль два гады, не расстаючыся з эцюднікам, жыў і творча працаваў у наваколлі возера Дрывяты. Я прыязджаў да яго ў госці...

З таго часу мінула пару гадоў, а ў душы далей-болей нарастае пачуццё доўгу перад гэтай зямлёй, перад тымі вясковымі людзьмі, народжанымі ёю, у вачах і голасе якіх мне тады бачыўся і чуўся дух Браслаўшчыны, яе даўніны, нялёгкае гісторыі...

Вось чаму, калі я натрапіў у «ЛіМе» 15 ліпеня на артыкул «Безыменны сімвал Браслава» Л. Пракопчыка, мяне агарнула, не пабаюся гучных слоў, гарачае жаданне аддзячыць Браслаўшчыне сваёй працай. Я ўжо не кажу, што сама асоба С. Нарбута больш чым вартая пашаны не толькі браслаўчан, але і кожнага беларуса, тым больш, калі ёсць магчымасць выказаць яе, гэтую пашану, на справе...

Хацелася б сустрэцца з Л. Пракопчыкам, каб бліжэй пазнёміцца з сітуацыяй адносна помніка на магіле С. Нарбута. Я змог бы распачаць працу са свайго боку як скульптар і актывіст Фонду культуры БССР па аднаўленні і рэканструкцыі «безыменнага сімвала Браслава».

Хочацца запэўніць, што мая прапанова — сур'ёзная і рэальная, бо кіраўніцтва кафедры скульптуры БДТМІ, дзе я вучуся, надзвычай прыхільна ставіцца да творчай працы студэнтаў з перспектывай яе ўвасаблення ў жыццё.

Гэтаму сімвалу трэба вярнуць імя. І, я ўпэўнены, многія, хто неабыякавы да сваёй Радзімы, да яе культуры, а значыць, да лёсу народа, адгукнецца на гэтую справу сваім талентам і бескарысцем сваёй душы.

**А. МІРОНЧЫК,**
**студэнт 4-га курса аддзялення скульптуры БДТМІ.**

●

**Пэўна, шмат хто з мінчан, а сёй-той і з гасцей сталіцы, адпачывалі на беразе Цнянскага вадасховішча. А рыбакоў дык тут можна ўбачыць у любую пару года. З вудачкамі і спінінгамі, бо, як вядома, лоўля занадта прыбытковымі рыбацкімі прыладамі тыпу пад'ёмнікаў ці брэдняў у нас ад пэўнага часу забаронена. Але, зразумела, заўсёды знойдуцца людзі з заграбушчымі рукамі, якім карціць парушыць забароны і абмежаванні. Дык вось, каб не было асаблівай спакусы пажывіцца за чужы кошт, міліцыя пільна сочыць за парушальнікамі. І асабліва ахоўваецца воднае плёса пад час нерасту рыбы. Нарады на «ўазіках», асобных міліцыянераў на матацыклах можна тады напаткаць не адно днём, але і глыбокай ноччу. Такую дбайнасць, бясспрэчна, можна толькі вітаць.**

**...І вось нядаўна ціхай вераснёўскай парою гэтае, скажам так, суладдзе прыроды з законам раптоўна парушылася. У ліку іншых відавочцаў мне давялося быць сведкам таго, як дасюль ахаванае ад людской сквапнасці багацце нечакана і незразумела з якіх меркаванняў было аддадзена на здзірства, глум і рабунак.**

**Возера, ці, дакладней, тое, што засталося ад возера, аж кішэла ад «рыбакоў», якія, хто на лодках, а хто з берага, чэрпалі пад'ёмнікамі, цягнулі брэднямі з вады трапяткую рыбу, набівалі ёю мяхі і торбы, ладавалі іх у багажнікі легкавушак, у каляскі матацыклаў, прывязвалі аборкамі да ровараў і, як пішацца ў афіцыйных паведамленнях, знікалі ў невядомым кірунку.**

**Што ж здарылася? Адбылася на першы погляд звычайная, нават будзённая рэч: спатрэбілася штосьці падрамантаваць у водаперапампоўвачнай станцыі, збудаванай пасярод возера, і дзеля гэтага вырашылі спусціць ваду. Хто адкажа, хто верне прычыненыя страты — матэрыяльныя, якія напэўна падрахоўваюцца не ў адну тысячу, і маральныя, экалагічныя...**

**Бясспрэчна адно: спатрэбіцца некалькі спрыяльных гадоў (а дзе гарантыя, што і сюды які-небудзь пустадомак не спусціць якой кольвек брыды тыпу аміячнай вады, ці, як летась у Мінскае мора, разам з дажджавой ці талай вадою не хлыне хімічнае ўгнаенне з палёў), каб зноў акрыяла і развялася рыба. Дарэчы, у Цнянскім вадасховішчы надараюцца і такія рэдкія цяпер у Беларусі ракі.**

**Пафас маёй гаворкі зводзіцца не толькі да канстатацыі таго, што ўжо адбылося, чаго, на жаль, нельга вярнуць і перайначыць, але і заклапочанасцю будучыняй.**

**Тое, сведкам чаго давялося быць, не з'яўляецца выключэннем ці нейкай *прыкрай* недарэчнасцю. Як ні маркотна гэта ўсведамляць, тут заўважаецца пэўная заканамернасць. Дык што: пройдзе гады два-тры і ўсё паўторыцца зноў?**

**Яўген ЛЕЦКА.**

●

У апошні час разгарнулася дыскусія аб дастатковасці ці недастатковасці нацыянальнай атрыбутыкі Беларусі. Адны прапануюць адрадзіць колішнія, старадаўнія нацыянальны сцяг і герб, другія лічаць, што гэтага рабіць нельга, бо гэтыя сімвалы выкарыстоўваліся нацыяналістамі, якія супрацоўнічалі з фашысцкімі захопнікамі.

Кіруючыся такой аднабаковай, недыялектычнай логікай забароны, можна, *бадай*, усумніцца і ў савецкай сімволіцы, пад знакам якой ствараліся сталінскія лагеры, нямецкія камуністы выдаваліся гестапа пасля заключэння з Германіяй пакту аб ненападзенні, Ціта быў аб'яўлены фашысцкім прыслужнікам.

Тады трэба было б знішчыць і старажытнаарыйскую сімволіку (свастыку) у медрэсе Рэгістан у Самаркандзе, а мастака Глазунова прыцягнуць да адказнасці за прапаганду фашысцкай сімволікі, скарыстанай у роспісе плашча рускага святога на карціне «100 вякоў».

Калі гаварыць сур'ёзна, то справа не ў саміх сімвалах, якія старэй нашага часу, а ў мэтах іх выкарыстання.

Гэтую сімволіку можна выкарыстаць і для таго, каб зрабіць уплыў на самасвядомасць нацыі, нагадваючы ёй пра старажытныя традыцыі і шматвяковую, да канца не вывучаную гісторыю, самабытнай нацыі, яшчэ здольнай унесці свой арыгінальны ўклад у сусветную культуру, і для таго, каб пасеяць пачуццё нацыянальнай выключнасці і вяшчаць ісціны ў апошняй інстанцыі.

Гэтую сімволіку можна не ўжываць, калі лічыць, што сапраўдная гісторыя нацы склалася ў апошнія 70 гадоў, а да гэтага была не гісторыя, а суцэльныя непаразуменні, якія не павінны аказваць уплыў на сённяшні дзень. Урэшце, такую пазіцыю можна зразумець напярэдадні святкавання 70-годдзя БССР, але ж гісторыя на гэтым не канчаецца і не з гэтага *пачалася*, а «*арганізацыйныя*» зручнасці не адмяняюць рэальнасці жыцця.

Калі ўзнікла праблема абмеркавання нацыянальнай сімволікі, то забаронай і вокрыкам яе не вырашыць. Канструктыўная ж пазіцыя дапускае наяўнасць пазітыўнай альтэрнатыўнай прапановы. Хацелася б ведаць: якой?

**Ю. ПАЛКАНАЎ,**
**фізік, навуковы супрацоўнік;**
**М. ПЛІСКО,**
**настаўнік гісторыі, члены палітклуба «Сучаснік».**

г. Мінск.

●

**Штогод прыязджаю ў адпачынак у свой родны горад Слуцк і як старажыл радуюся вялікім зменам у ім. Але мой расказ — пра справы сумныя.**

**Кожную восень я прыходжу на старыя слуцкія могілкі па вуліцы імя 14 партызан, дзе пахаваны мае дзядуля і бабуля, і прыводжу ў парадак іх магілы. Ідучы па цэнтральнай алеі могілак, міжволі думаю пра тое, што яшчэ зусім нядаўна на гэтай алеі стаялі помнікі случчанам, якія памерлі да і пасля Вялікага Кастрычніка. Яны, гэтыя помнікі, былі зроблены майстрамі сваёй справы з вялікім густам. Цудоўныя мармуровыя і гранітныя скульптуры, стэлы, пліты з рознымі эпітафіямі прымушалі запаволіць крок і ў штодзённай сумятні спыніцца, падумаць пра сэнс жыцця...**

**З пачуццём горычы пакідаў я на гэты раз слуцкія могілкі. Зніклі невядома куды мармуровыя пліты, чыясьці жорсткая рука паваліла на зямлю многія старадаўнія помнікі. Па алеях, весела смеючыся, катаюцца цяпер на веласіпедах падлеткі, наладжваючы гонкі сярод магіл... Я ўбачыў, што зусім нядаўна, мяркуючы па неўтрамбаванай зямлі, учынены здзек з праху Люцыны Орда. Помнік, які прыцягваў увагу сваёй адметнай архітэктурай і нараджаў нямала паданняў, павалены, магіла разрабавана шукальнікамі золата. Хваля рабаўніцтва з *вялікіх гарадоў* дакацілася і да майго роднага Слуцка...**

**Разумею, што старажытныя могілкі праз некалькі дзесяткаў гадоў знясуць. Але ж цяпер яны існуюць і тут пахаваны людзі, якія стварылі нашу гісторыю. Сярод іх — Героі Савецкага Саюза і Героі Сацыялістычнай Працы, проста людзі-случакі. А па адносінах да магіл сваіх продкаў можна меркаваць аб духоўнасці пакаленняў. Я не заклікаю мясцовыя ўлады выстаўляць на могілках міліцэйскі пост. Ахоўваць прах і вечны спакой мёртвых павінна не міліцыя, а чалавечая памяць, сумленне і спачуванне. Няўжо, мае дарагія землякі, спажывецкія інтарэсы адхінулі гэтыя пачуцці на задні план незваротна?**

**А. ЛАЎРЫНОВІЧ,**
**артыст Гомельскага аблдрамтэатра.**

●

Мне трыццаць два гады, а родную мову толькі вывучаю. Сорамна... Але не ў гэтым цяпер справа. Маім сынам — адзінаццаць і восем гадоў, і, баюся, можа здарыцца так, што і яны прыйдуць да роднай мовы ажно праз дзесяцігоддзі. Старэйшы скончыў ужо чатыры класы, але ніводнага ўрока, прысвечанага гісторыі Беларусі, у яго жыцці яшчэ не было (пра малодшага наогул няма чаго казаць!). Падручнік па беларускай літаратуры для чацвёртага класа складзены няўдала: ён не выконвае галоўнага свайго прызначэння — не абуджае ў дзецях цікавасці да літаратуры, любові да роднага слова.

Чым магу, я дапамагаю старэйшаму сыну. Ён чытаў ужо выбраныя творы У. Караткевіча, П. Панчанкі, У. Арлова, Л. Дайнекі, *легенды і паданні* беларускага народа, і чытаў з задавальненнем. Але ці многа такіх кніг? Чаму, напрыклад, тую ж фантастыку, прыгоды, гістарычныя аповесці можна перакладаць з нямецкай або англійскай мовы на рускую, і хутка іх выдаваць, а перакладаць на беларускую — нельга? Лічу, што трэба друкаваць на роднай мове самыя захапляючыя творы сусветнай літаратуры для дзяцей і юнацтва.

Не магу зразумець і тое, чаму ў школах зусім не карыстаюцца цудоўнай кнігай «Зямля пад белымі крыламі»? Праблема ж са складаннем новых падручнікаў па гісторыі надта вялікая. Ды і падручнікі, якія выйдуць праз некалькі гадоў, будуць ужо не для сённяшні вучняў. А між тым, у кнізе Караткевіча ёсць усе неабходныя гістарычныя звесткі, і, што вельмі важна, напісана яна цікава і займальна. Гэта, фактычна, гатовы падручнік па гісторыі і культуры Беларусі для дзяцей дзесяці—дванаццацігадовага ўзросту.

*Выхаванне грамадзяніна* — складаная справа. Але чаму барацьба за розум і сэрцы нашых дзяцей ператварылася толькі ў барацьбу за сімвалічнае павелічэнне колькасці ўрокаў роднай мовы? Мовай трэба карыстацца кожны дзень, кожную хвіліну, і не толькі гаварыць, але і вучыцца думаць на ёй. Вось тады можна лічыць, што сапраўды валодаеш мовай.

Аднак школа ў гэтым напрамку будзе, відаць, «перабудоўвацца» яшчэ не адзін год. Таму нам вельмі патрэбны сёння гурткі або клубы беларускай культуры для дзяцей малодшага ўзросту і падлеткаў. У праграму іх работы павінна ўвайсці вывучэнне роднай мовы, гісторыі, краязнаўства, народнага мастацтва, фальклору. Важна таксама прыцягваць дзяцей да ўдзелу ў разнастайных суботніках і нядзельніках па добраўпарадкаванні тэрыторыі гістарычных ансамбляў (напрыклад, Верхняга горада ў Мінску) разам з моладдзю і дарослымі. Няхай хлопчыкам і дзяўчынкам будзе дзе і з кім размаўляць на роднай мове (на жаль, бацькоў сваіх яны бачаць дзве-тры гадзіны ў суткі: усе мы працуем, ды і не ведаем столькі, колькі б хацелася перадаць дзецям).

Безумоўна, стварэнне такіх гурткоў — нялёгкая справа, але ў Мінску, напрыклад, могуць дапамагчы студэнты БДУ імя У. І. Леніна, педінстытута, інстытута культуры, нефармальныя аб'яднанні «Талака», «Тутэйшыя», урэшце—Фонд культуры... Усе мы павінны сёння клапаціцца пра нашу будучыню.

**В. МАТУСЕВІЧ,**
**інжынер.**

г. Мінск.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01399 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, машынапісная бюро — 33-44-04, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.